PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 9 (1972) ГОД XXXIX | БЕЛАСТОК 27 ЛЮТАГА 1994 г. | ЦАНА 4000 зл.

## ІВАН і МАР'Я



*На канікулы да бабы з дзедам прыехалі з Беластока ўнучкі — Марта і Марцін.*
**Фота М. Лукшы**

Блукаючы па слядах адной маладой і таленавітай „белавежанкі", Люсі Анхім, якая добра дэбютавала на старонках „Нівы" яшчэ ў ліцэі, а потым надоўга змоўкла, на прыцемках трапілі мы з Алесем Палескім у Калясное. Ужо ў Супрунах нам сказалі, што Люся па прычыне цяжкай хваробы была прымушана кончыць навуку на беларускай філалогіі, яе мама жыве ў Беластоку, а дакладней пра іх скажуць у першай альбо перадапошняй хаце ў Калясным.

Зімова вёска стаяла ў цішы, нават сабакі маўчалі. А, можа, і сабак тут няма?.. Бо і ў вокнах цёмна? Пад'ехалі мы да сцішанага дома. У адным акне блакітна паблісквала святло тэлевізара.

Спадарства Мар'я і Іван Самойлікі разам з унукамі, што прыехалі да іх на канікулы з Беластока, глядзелі першую праграму тэлебачання. Са здзіўленнем пагладалі на чужых людзей, што незвычайнаю парою завіталі да іх у госці. Аказалася, што Іван ёсць хросным бацькам Люсі. Слова да слова, і, калі разгаварыліся, пасядалі на зэдлікі, знайшлося і больш супольных спраў — адзін з сыноў Самойлікаў, Янка, вучыўся ў школе з Алесем.

— Ой, бачыце, неспадзяваныя госці! — смяялася спадарыня Мар'я. — Нават не пачулі, як пад'ехалі. Потым падумалі, што наша дачка з Міхалова.

Пяцёра ў іх ёсць — трох сыноў і дзве дачкі. Самі яшчэ нестарыя, хоць Мар'і яшчэ пару гадоў засталося да пенсіі.

— Хацеў я зямлю апісаць на дзяцей, але вазьмі іх намоў! Ні адзін не хоча! Ано „варшавяк", Янка, кажа: „Тату, не здавайце". Вось я Янушка ўважаю. Не кажа, татка, яна мне непатрэбная, але пакуль што не здавайце.

— Вы скажыце Янку, што мае рацыю! — уключаецца Алесь у хуткі паток гаспадаровае мовы. — Зямлю страціць лёгка, а набыць цяжка... За пяты клас вось падаткаў не плаціцца...

— Але зямля вартая грошы. Наша зямля!

— Лепш перапісаць яе на якога-кольвек беларуса, чымсці аддаваць яе для „панства".

— Але наша гміна ў Міхалове не бярэ. Знаёмы мой, Павал з Боўтрыкаў, там працуе, то я кажу яму: „Забірайце маю зямлю!" А ім не трэба! Можа потым

☞ Працяг на стар. 5

## БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ БЕЛАРУСКАМУ ЦЭНТРУ?! або ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ?!

Да гарачых спрэчак аб тым, дзе павінен быць [illegible] беларускай культуры: у Беластоку ці ў Гайнаўцы, хачу і я дакінуць некалькі заўваг, бо і тэма ж вельмі важная, а і даволі неадкладная, калі хочам мець такі Цэнтр. Пытанняў тут, зрэшты, некалькі.

Першае з іх такое: ці патрэбны нам, польскім беларусам, такі Цэнтр? На маю думку, вельмі патрэбны, і ўжо зараз. Чаму патрэбны? Бо не можа добра развівацца наша беларуская дзейнасць без такога Цэнтра, без каардынатара. Мы ўжо маем багатыя дасягненні ў розных галінах нашай беларускай дзейнасці, але ці многія пра гэта ведаюць? Дзе сабраны, удакументаваны, апрацаваны і стала экспанаваны нашыя дасягненні?..

Апошнім часам паявілася ў Польшчы і свеце вялікая патрэба і мода на беларушчыну. Як грыбы пасля цёплага дажджу пачалі ўзнікаць у польскіх вышэйшых навучальных установах аддзяленні беларускай філалогіі, курсы беларускай мовы, семінары па беларускай мове і літаратуры. На беларускія тэмы масава пачалі пісаць гадавыя і дыпломныя працы і навуковыя дысертацыі. Такой прыхільнай кан'юнктуры для нашых беларускіх спраў, як цяпер, яшчэ не было дасюль ніколі. І гэта вельмі добра, трэба спрыяць і дапамагаць такой прыхільнай атмасферы. Бяда, аднак, у тым, што дасюль ніхто сур'ёзна і кампетэнтна гэтым не займаецца. Жадаючыя не ведаюць куды і да каго звярнуцца за парадай, дапамогай, адпаведнымі матэрыяламі. Многія звяртаюцца за дапамогай да нашых беларускіх ліцэяў. І мы, чым толькі можам, дапамагаем, але магчымасці нашы ў такіх справах надта ж мізэрныя...

А па-другое было б неразумным і смешным не стварыць у нас Цэнтра беларускай культуры, калі паявіліся такія магчымасці. Але бачу, што праз нашу традыцыйную ўпартасць і дурноту можам і гэты шанц страціць. Шляхетная ідэя стварэння Беларускага цэнтра разбіваецца аб месца яго размяшчэння — ці Беласток, ці Гайнаўка?

На першы погляд як бы пагаджаюцца ўсе, што такі Цэнтр павінен быць у Беластоку, бо ўсё ж такі гэта і вялікі горад, і сталіца рэгіёна, і даволі вядомы навуковы цэнтр, але... Вось менавіта гэтае халернае „але". Для такога Цэнтра патрэбны адпаведны будынак, плошча, а іх у Беластоку няма і не прадбачыцца, што ў хуткім часе яны будуць.

Новага будынка нам ніхто не дасць, а калі і даў бы, то з арэнднай платай за яго ніяк не справімся, бо яна шалёная цяпер. Купіць або збудаваць свой будынак не ўдасца, бо патрэбны вялікія грошы, а ў нас іх няма. Нават тая плошча, якой беларусы ад дзесяткаў гадоў карысталіся ў Беластоку, пачала страшэнна

☞ Працяг на стар. 10

## ТУРМА: У КОЖНАГА СВОЙ ПОГЛЯД

**Калі ў палове васьмідзесятых гадоў у Кожыне (гміна Бельск-Падляшскі) пачалі перарабляць школу на турму, людзі ў навакольных вёсках прадвяшчалі сабе канец. А што, калі яны збунтуюцца, павырэзваюць вартаўнікоў ды за нас, беларусаў, возьмуцца...**

### Падмурак капіталізму

Турма ў вёсцы Кожына, — сказаў намеснік старшыні следчага арышту ў Беластоку Аляксандр Базылюк — працавала прыблізна ў перыяд 1986—89. Быў гэта наш вонкавы аддзел. Раней у гэтым будынку была школа — недзе ў 1984 годзе бельскае Прадпрыемства сельскага будаўніцтва (PBRol, Przedsiębiorstwo Budownictwa Rolniczego) правяло ў пагадненні з намі рамонт школы, дастасоўваючы яе на патрэбы турмы. Мы, як арышт, даставілі туды неабходнае абсталяванне і былі кансультантамі. Наколькі мне вядома, усе патрэбныя фармальнасці з асветнымі ўладамі палагодзіла прадпрыемства — арышт, у кожным выпадку, справай гэтай не займаўся. У Кожына траплялі вязні за лягчэйшыя злачынствы, адбывалі там наогул сваё першае пакаранне, у час якога працавалі на будовах згаданага Прадпрыемства сельскага будаўніцтва. Прадпрыемства такога ў Бельску сёння няма, але яго спадкаемцам у вялікай меры з'яўляецца прыватная фірма „Unibud".

### У Кураторыі асветы ў Беластоку...

на пытанне пра тое, як адбылася трансфармацыя школьнага будынка ў турму толькі паціснулі плячыма. Будынак гэты, — сказалі, — не быў у той час у нашай кампетэнцыі. Можна запытаць у нашай дэлегатуры ў Бельску-Падляшскім або ў самой гміне.

У бельскай дэлегатуры Кураторыі асветы таксама няшмат пра кожынскую школу ведалі. Візітатар беларускай мовы спадарыня Тамара Русачык успомніла толькі, што ў гадах 1982-83 — школа тады яшчэ працавала — ездзіла ў Кожына на кансультацыі, у сувязі са сваёй функцыяй метадыста. Калі аднак гаварыць пра турэмны перыяд, — дадала Т. Русачык, — то мой муж займаўся перавозам вязняў з Кожына на будовы, на якіх яны працавалі. Часта таксама здаваў на пошту іхнія лісты, прывозіў ім гарбату... Муж з таго часу мае шмат сувеніраў, якія яму зрабілі вязні. Некаторыя прадметы сапраўды цудоўныя — рамачка на абразок, зробленая з саломы, а ніколі не падумаеш, што гэта салома, ці шкатулка з хлеба... Там, у Кожыне, мусілі сядзець таленавітыя людзі.

Выглядала на тое, што ўсе, або большасць, адказаў на пытанні, звязаныя з кожынскай школай-турмой знаходзяцца ў войта гміны Бельск Юрыя Ігнацюка. Паслятурэмная маёмасць у Кожыне — фармальная ўласнасць гміны. Трэба тут яшчэ адзначыць, што беластоцкі следчы арышт некалькі разоў рабіў падыходы, каб будынак той вярнуць дзеля сваіх патрэб. Войт бельскай гміны, — сказаў намеснік старшыні арышту, — заўсёды нам адмаўляў. Відаць,

### у яго нейкія свае намеры.

— Школы ў Кожыне няма, а калі ідзе пра турму — вы памылілі адрасы, — асвяціў мяне войт Ю. Ігнацюк. Прызнаў аднак, што будынак у Кожыне — уласнасць гміны Бельск, а ў яго, як войта, няма праекта загаспадарання гэтай маёмасці. У Кожыне, — дадаў, — школьны будынак быў прыстасаваны для патрэб турмы, але яе туды не вер-

☞ Працяг на стар. 3

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Telewizja i prasa amerykańska ordynarnie fałszują relacje z Jugosławii według prostego schematu: Serbowie są „wschodni" i „bizantyńscy", armia jugosłowiańska jest kierowana przez „twardogłowych komunistycznych generałów", o Chorwatach mówiono, że są „zachodni", „zamożni", „budujący zachodnią demokrację". Zniszczenia pokazywano po stronie muzułmańskiej albo chorwackiej, o morderstwach i gwałtach na Serbach nie mówiono nic, choć „pożyczano" sobie serbskie trupy, mówiąc i pisząc, że to Chorwaci i Muzułmanie.*

*(Polityka, nr 6)*

Пункт гледжання Вялікага Брата з-за акіяна прыжыўся таксама і ў Польшчы, з такой толькі розніцай, што тут памятаюць яшчэ, што сербы — гэта „схізматыкі", а харваты — набожныя каталікі, якім зусім чужыя ўсялякія злачынствы.

* * *

*Kiebicz przejawia wyjątkową naiwność sądząc, że Rosja weźmie na swój grzbiet Białoruś, kierując się jakąś „solidarnością klasową", narodową czy polityczną. Ekipa w Moskwie to pragmatycy, jeżeli coś zrobią dla Białorusi, to za zbyt wysoką cenę... Wiceprzewodniczący Komisji Rady Najwyższej do spraw reformy gospodarczej Wiktor Łapszyn pyta, co zrobić z tymi białoruskimi patriotami, którzy będą zaciekle walczyć o rzeczywistą niepodległość i suwerenność kraju? Budować dla nich obozy koncentracyjne? Rozstrzeliwać na miejscu?*

*(Polityka, nr 6)*

Кожны варыянт быў ужо спрактыкаваны. Жывуць яшчэ людзі — „заслужаныя героі Савецкага Саюза", якія гатовы служыць парадамі.

* * *

*Można by rzec, że SLD i PSL różni tylko pogląd na kwestię agrarną. PSL chciałby SLD widzieć w ziemi, a SLD — PSL,* — сказаў лідэр Ліберальна-дэмакратычнага кангрэса Дональд Туск.

*(Gazeta Współczesna, nr 26)*

* * *

*Zbankrutował Zakład Przetwórstwa Warzywniczego w Fordonie. W zeszłym roku nagrodzony znakiem „Teraz Polska" za najlepszy krajowy wyrób. Fordon padł, mimo iż produkował produkt pierwszej potrzeby — ogórki konserwowe. Niestety, przez ostatnie lata nasze społeczeństwo nauczyło się pić bez zakąszania.*

*(Nie, nr 5)*

* * *

*Znaczna część ludności określanej mianem „Białorusinów", zamieszkująca południowo-wschodnią część województwa białostockiego w rzeczywistości z Białorusinami nie ma nic wspólnego,* — заяўляе бельскі ўкраінец Юры Гаўрылюк.

***(Над Бугом і Нарвою, н-р 3—4, орган Саюза ўкраінцаў Підляшша)***

Пэўным правілам апошіх гадоў сталася ўжо, што найбольшымі антыбеларусамі на Беласточчыне сталі менавіта дзеці беларусіх сялян, якія апынуліся ў гарадах, навучыліся мыць зубы, карыстацца ваннай, дасягнулі звання магістраў, інжынераў, дацэнтаў. Адны рашуча і дэманстрацыйна крычаць, што з'яўляюцца праваслаўнымі палякамі, другія праслаўляюць вялікую Русь ад акіяна да акіяна, трэція — вялікую Украіну ад Крыма да Саколкі. Тое, што спалучае нашых адурманеных мужыкоў — гэта нянавісць да свае спадчыны і абурэнне на шалеючы тут беларускі шавінізм, нават калі адначасова заяўляюць і навукова даказваюць, што ніякіх беларусаў тут няма.

* * *

Сустрэчу ветэранаў Арміі краёвай у Гародні я назваў бы бальшавіцкай сходкай. Гэтае мерапрыемства трэба ставіць у адзін шэраг з „Конгрессом народов Белоруссии", з'ездам Саюза афіцэраў і іншымі падобнымі акцыямі, накіраванымі супраць Беларускай дзяржавы. І акоўцы, і камуністы, стоячы нібыта па розныя бакі ідэалагічнай барыкады, хутка знаходзяць паразуменне на глебе пагарды і нянавісці да беларушчыны.

***(Беларускі Дайджэст, н-р 2, Нью-Йорк)***

* * *

*Od 1 lutego wiceministrem kultury i sztuki jest Zdzisław Podkański, działacz PSL z Lublina.*

*(Rzeczpospolita, nr 47)*

Гмінныя рок-гурты ўжо рыхтуюцца выступаць на забавах у „рэмізах" у народных строях.

* * *

*Strażacy oblеli spirytusem a następnie podpalili swego kolegę.*

*(Gazeta Współczesna, nr 26)*

Каб было нешта гасіць, трэба перш каб нешта гарэла. Пэўна ігралі ў расейскую рулетку — каго падпаліць першага.

* * *

*Przychodzi moment, kiedy uwiązana w domu kobieta zaczyna tęsknić za jakąś odmianą. Marzy się jej wypad do kina, teatru, restauracji. Chciałaby z kimś porozmawiać. Spracowany i zmęczony mąż nie ma ochoty na rozmowy i woli obejrzeć film,* — так прадстаўляе трагічную сітуацыю жанчын, якія выконваюць адказную прафесію „gospodyni domowej", часопіс *Poradnik domowy (nr 2).*

* * *

*Współżycie seksualne z dewotem lub dewotką nie sprawia przyjemności* — заяўляе знаўца гэтай тэмы Ежы Урбан.

*(Nie, nr 5)*

* * *

*Dla potrzeb sejmowego „Kto kim jest" parlamentarzyści poproszeni zostali o napisanie krótkiego życiorysu. Pos. Stanisław Maliszewski (SLD) b. sekretarz d.s. propagandy o sobie samym dla potomności napisał:*

*Otrzymałem gruntowne katolickie wychowanie w mojej parafii w Szudziałowie. Jako ministrant służyłem do mszy św. wówczas, gdy kapłanem w tej parafii był ks. kardynał Gulbinowicz z Wrocławia.*

*(Polityka, nr 6)*

Пасла Малішэўскага віншуем з вельмі акуратным выхаваннем, а праваслаўных выбаршчыкаў, якія яго выбралі — з вельмі трапным выбарам.

* * *

*Pan prezydent Wałęsa od początku wiedział czego chce i dokąd zmierza, tylko nie może, bo mu przeszkadzają.*

*(Gazeta Współczesna, nr 23)*

Вось якое жуллё!

* * *

***Из Министерства просвещения Украины на места поступила директивная телеграмма, согласно которой в школах запрещено изучать русский язык.***

***(Русский Вестник, н-р 52/1993)***

Тем не менее и так все казаки прекрасно говорят на русском языке. Это Малая Россия — говорят в Москве.

# З мінулага тыдня

„**У пераходным перыядзе**, у якім знаходзіцца наша краіна, патрэбна нам больш дзейсная выканаўчая ўлада, больш эфектыўнае ўпраўленне", — падкрэсліў **Лех Валэнса**, каментуючы разыходжанні ўнутры правячай кааліцыі. „На гэты пераходны перыяд патрэбная большая дзейснасць заканадаўчай улады, але хай яна займаецца законамі (...); прэзідэнт прапануе прэм'ера і разам з прэм'ерам урад, неабавязкова мусіць гэта быць урад большасці або нейкай партыі", — сказаў прэзідэнт.

„**Канфлікты і непакоі** ўнутры кааліцыі давядуць да таго, што ў гэтай мутнай вадзе найлепш будзе сябе адчуваць майстра мутнай вады — прэзідэнт РП", — сказаў на сходзе Сацыял-дэмакратыі РП у Вроцлаве **Ежы Шмайдзінскі**. Сцвердзіў ён таксама, што ўдасканаленне патрабуюць праца ўрада і супрацоўніцтва абодвух кааліцыйных пасольскіх клубаў. На яго думку зараз ва ўрада няма інфармацыйнай палітыкі, а вакансія на пасадзе прэс-сакратара сведчыць аб слабасці ўпраўляючага кааліцыяй.

**Прэзідыум Краёвай камісіі прафсаюзаў „Салідарнасць"** у Гданьску паведаміў, што кошт антыўрадавай дэманстрацыі, якую прафсаюз арганізаваў 9 лютага г.г. у Варшаве, склаў суму 90 мільёнаў злотых. Грошы былі ўзяты з прафсаюзных фондаў.

**Старшыня прафсаюза „Салідарнасць" Мар'ян Кшаклеўскі** пасля варшаўскай дэманстрацыі заявіў аб гатоўнасці перамоваў з урадам. Прэм'ер-міністр **Вальдэмар Паўляк** у лісце да старшыні „Салідарнасці" напісаў, што іхняя сустрэча „павінна быць папярэджана вызначэннем размеру пытанняў, якіх нельга вырашыць у іншы спосаб і якія патрабуюць афіцыйнай сустрэчы".

„**Польшча** добра падрыхтавалася да вайсковага супрацоўніцтва з НАТО", — сказаў старшыня Вайсковага камітэта НАТО маршал **Рычард Вінсент** пасля сустрэчы з міністрам нацыянальнай абароны **Пётрам Каладзейчыкам**. Р. Вінсент падкрэсліў, „што Польшча — важны і перспектыўны партнёр" для Паўночнаатлантычнага пакта.

**Міністры замежных спраў Польшчы і Малдовы Анджэй Аляхоўскі і Іон Батнару** парафавалі ў Варшаве тэкст трактата аб дружбе і супрацоўніцтве паміж абедзвюма краінамі.

**У Кіеве** 30 тысяч адзінокіх пенсіянераў вымушаны жыць на 5 долараў у месяц. Сярод іх і **Любоў Франко** — дачка вядомага пісьменніка Івана Франко. Для некаторых паратункам бываюць бясплатныя супы ў публічных кухнях.

**Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку** размесціцца ў будынку па вуліцы **Варынскага 4**. Нядаўна Консульства падпісала дамову з Упраўай горада Беластока аб арэндзе першага паверха гэтага будынка плошчаю ў 110 квадратных метраў.

**Новым старшынёю** Ваяводскага праўлення Фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі ў Беластоку выбраны былы беластоцкі віцэ-ваявода д-р **Аляксандр Усакевіч**. Наглядная рада Фонду пазнаёмілася таксама з прапановамі наконт фінансавання будаўніцтва ачышчальняў сцёкаў і экалагічнай адукацыі, на што спатрэбіцца звыш 170 млрд. злотых.

**Беластоцкая самаўрадавая кааліцыя** на карысць самаўрадавых выбараў, якая завязалася ў Беластоку па ініцыятыве сямі мясцовых партый і арганізацый, гуртуе цэнтрысцкія і левыя асяроддзі горада. Новую кааліцыю стварылі: ПСЛ, СЛД, Унія працы, Польская сацыялістычная партыя, Федэрацыя спажыўцоў, Саюз польскага настаўніцтва і **Беларускі саюз у Рэчыпаспалітай Польскай**. Падчас сустрэчы заснавальнікі кааліцыі адобрылі тэзісы самаўрадавай выбарчай праграмы.

**II Мірная канферэнцыя моладзі сярэдніх школ Еўропы** адбудзецца ў пачатку мая ў Беластоку. Прымуць у ёй удзел дэлегацыі 20 школ з 12 еўрапейскіх краін. Канферэнцыю фінансуюць і арганізуюць галандцы з Эйндхавена, а дапамагаюць ім улады горада Беластока.

**Аферта** — так называецца магазін, які бясплатна прапануе працу беспрацоўным. Знаходзіцца ён у Беластоку па вул. Граховай 11, тэл. 266-42.

**У вайсковай часці н-р 3748** у Нурцы-Станцы каля шасцідзесяці салдат (адна трэць усяго персанальнага саставу) заразіліся сальманелёзам пасля спажыцця яек. Хворых размясцілі ў бальніцах Сямяцікі, Бельска-Падляшскага і Беластока.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Рэпартаж Ганны Кандрацюк з Нарвы.
- Сеймавая камісія сустрэлася з беларусамі.
- Коля Ваўранюк здзіўляецца.
- Прывіды Беласточчыны.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Пралетарыі ўсіх краін СНД — яднайцеся!

„Народы краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў псіхалагічна настроены на збліжэнне", — заявілі ўдзельнікі пасяджэння Савета Міжпарламенцкай асамблеі краін-удзельніц СНД, якое адбылося ў Санкт-Пецярбургу. Станоўчую ацэнку вынікам гэтага пасяджэння даў старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечыслаў Грыб, які ўпершыню прыняў удзел у такім форуме. „Наша дэлегацыя будзе прымаць актыўны ўдзел у рабоце Міжпарламенцкай асамблеі. Беларусь зацікаўлена ў развіцці заканадаўчай базы для ўзаемадзеяння ў рамках СНД", — заявіў старшыня ВС.

## Рублёвая рэквізіцыя

Запазычанасць Беларусі за пастаўлены Расейскай Фэдарацыяй у 1993 годзе газ складае 370 млрд. расейскіх рублёў. У сувязі з крытычным становішчам, выкліканым несвоечасовым пагашэннем запазычанасці за газ расейскаму акцыянернаму таварыству „Газпром" з мэтай прадухілення прыпынення падачы газавых паліўных рэсурсаў у Беларусь, Савет Міністраў рэспублікі пастанавіў лічыць неабходным уключыць у дзяржаўны рэзервовы фонд нацыянальных валют рэшткі безнаяўных расейскіх рублёў, якія знаходзяцца на спецыяльных рахунках беларускіх суб'ектаў гаспадарання з кампенсацыяй гэтым суб'ектам названых сродкаў у безнаяўных беларускіх рублях па афіцыйным курсе нацыянальнага банка.

## Прэм'ер і цэны

Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч правёў разбор прычын, якія прывялі да нядаўняга павышэння цэн на хлебабулачныя вырабы і цукар. Устаноўлена, што павышэнне цэн адбывалася без паведамлення ўрада па ініцыятыве шэрагу цэнтральных ведамстваў і мясцовых органаў улады. Па распараджэнню прэм'ер-міністра новыя цэны на хлеб адменены і вернуты да ранейшага ўзроўню, а на цукар — зніжаны больш чым на 600 рублёў за кілаграм. Вінаватыя ў несанкцыяніраваным павышэнні цэн на хлебабулачныя вырабы і цукар будуць прыцягнены да адказнасці.

## Ліквідаваць БЗВ!

Міністэрства юстыцыі падало ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь іскавую заяву аб ліквідацыі Беларускага згуртавання вайскоўцаў, а кіраўніцтва БЗВ атрымала позву ў суд. На думку прадстаўнікоў Згуртавання гэта звязана ў першую чаргу з тым, што БЗВ адгукнулася на просьбу Савета страйкавых камітэтаў дапамагчы ў падтрымцы грамадскага парадку падчас правядзення палітычнага страйку. Нездарма датай пасяджэння Вярхоўнага Суда абрана 14 лютага, напярэдадні асноўнай падзеі. Тым не менш кіраўніцтва заявіла, што нават забарона арганізацыі не пашкодзіць членам Згуртавання прыняць удзел у падтрымцы парадку падчас страйку.

## Абноўленае свята

Прэзідыум Вярхоўнага Савета пастанавіў абвясціць 23 лютага Днём Абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь (раней называлася яно Днём Савецкай Арміі). Рашэнне гэтае — як сцвярджаецца ў заяве — даніна памяці абаронцам айчыны, ветэранам вайны і ўзброеных сіл, партызанам Вялікай айчыннай вайны, улічэнне важнага грамадскага і ваенна-патрыятычнага значэння традыцыі, якая склалася на Беларусі.

## Візавыя пагадненні

У Менску і Вільні адбыліся сустрэчы экспертаў Беларусі і Літвы. Былі абмеркаваны і парафаваны праекты часовых пагадненняў паміж урадамі аб узаемных паездках грамадзян і аб спрошчаным пропуску праз граніцу насельніцтва прыгранічных тэрыторый. Гэтыя пагадненні плануецца падпісаць да ўвядзення візавага рэжыму ўезду — выезду грамадзян Беларусі, аб'яўленага літоўскім бокам з 1 сакавіка.

## Амерыканскае консульства

З 14 лютага ў Менску пачаў працу Консульскі аддзел Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі, які будзе выдаваць усе віды віз, акрамя эмігранцкіх, грамадзянам Беларусі. Да гэтай пары за візамі беларусы ездзілі ў сталіцу суседняй дзяржавы — Маскву.

## Беларусь ва ўладах UNICEF

Рэспубліка Беларусь выбрана ў праўленне Дзіцячага фонду Арганізацыі Аб'яднаных Нацый UNICEF на арганізацыйнай сесіі эканамічнага і сацыяльнага савета ААН, якая праходзіла ў штаб-кватэры гэтай арганізацыі ў Нью-Йорку. З нядаўняга часу UNICEF пачаў аказваць дапамогу дзецям і маці Беларусі, у прыватнасці тым, хто пацярпеў у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. У састаў праўлення ад групы ўсходнееўрапейскіх дзяржаў выбраны таксама Расея, Азербайджан і Румынія.

## На гастролі ў Польшчу

Артысты Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета пабывалі на гастролях у Польшчы па запрашэнню фірмы „Амега-Прыма". Гледачы васьмі польскіх гарадоў мелі магчымасць пабачыць на сцэне лепшыя пастаноўкі мастацкага кіраўніка галоўнай балетнай трупы Беларусі Валянціна Елізар'ева.

# ПАНАРАМА ЧАРОМХАЎСКАЙ ГМІНЫ

## (3)
## Культура, асвета, спорт

Добра працуе чаромхаўскі Гмінны асяродак культуры, якім кіруе Тамара Кердалевіч. У ім займаюцца, між іншым, духавы аркестр, які вядзе Юзэф Коркус, фальклорны калектыў „Чарамшына” ды розныя гурткі зацікаўленняў. У ГОКу моладзь вучыцца іграць на акардэоне, гітары і піяніна. Тут можна таксама гуляць у більярд. Сёлета восенню пачне працаваць гурток жывапісцаў-аматараў. Тут, у даволі прасторным зале, 22 і 23 студзеня гэтага года адбыліся Ваяводскія сустрэчы гуртоў каляд-оўшчыкаў. Удзельнічалі ў іх два калектывы з Чаромхаўскай гміны: з Чаромхі-вёскі (гурт вядзе Люба Салінская) і з Вулькі-Тэрахоўскай (ансамблем кіруе Вера Рошчанка).

У Гмінным асяродку культуры працуюць публічная бібліятэка з багатым кнігазборам ды кавярня. У ім можна пазычаць відэакасеты, газеты і часопісы.

У гміне існуе пяць вясковых святліцаў: у Чаромсе-вёсцы, Кузаве, Баброўцы, Вульцы-Тэрахоўскай і ў Ставішчах. Да аднае з іх — у Кузаве — у мінулым годзе дабудавалі яшчэ адно памяшканне. Будзе праведзены рамонт святліцаў у Вульцы-Тэрахоўскай і ў Ставішчах. Апрача таго неабходна будзе памаляваць іх у сярэдзіне: дзе падлогу, а дзе сцены.

* * *

Чаромхаўская Гмінная публічная бібліятэка існуе сорак гадоў. Цяпер яна налічвае амаль 15 тыся[illegible]моў. Наведвае яе 560 пастаянных чытачоў, — паінфармавала Люцына Высоцкая. Бібліятэчная чытальня мае дваццаць месц. З яе найбольш карыстаюць вучні сярэдніх і пачатковых школ. У ёй знаходзіцца падручны, асобны кнігазбор, а ў ім перш за ўсё розныя слоўнікі, энцыклапедыі, хронікі ды ўсялякія даведнікі, а таксама дзевяць загалоўкаў газет і часопісаў. У 1993 годзе ў бібліятэку купілі каля 150 кніжак за звыш 5 мільёнаў злотых. На падпіску газет выдалі амаль 4 мільёны злотых.

Наведвальнікі Чаромхаўскай бібліятэкі найбольш чытаюць — паводле ўсіх паказчыкаў — мастацкую літаратуру, а затым кніжкі для дзяцей і моладзі. Найбольш актыўнымі чытачамі з'яўляюцца: Зінаіда Тарасюк, Софія Тарасюк, Мікалай Баранаў, Веслаў Пэжык і Тамаш Сасноўскі — усе яны з Чаромхі.

Дзейнічаюць два бібліятэчныя пункты: у Чаромсе (пяты год займаецца ім Галіна Ражук) і ў Апацы (больш трыццаці гадоў вядзе яго Мар'я Саўчук). Пункты абслугоўваюць семдзесят чытачоў.

* * *

У Чаромхаўскай гміне— як, мабыць, нідзе ў іншай — амаль усе дзеці вучацца ў адной школе. У Пачатковай школе ў Чаромсе займаецца 522 дзетак з адзінаццаці вёсак і мястэчка. Дзяцей давозяць школьнымі і рэйсавымі аўтобусамі. Другая, філіяльная школа існуе ў Чаромсе-вёсцы, дзе вучацца ўсяго шаснаццаць дзяцей — у класах I—III. У ПШ у Чаромсе ёсць дзевятнаццаць аддзяленняў і 33 настаўнікі, з якіх дзевятнаццаць маюць вышэйшую адукацыю.

Калі ў Чаромсе-вёсцы ўсе дзеці з другога і трэцяга класаў вучацца беларускай мове (навучае іх настаўніца Галіна Саўчынская, якая зараз павышае сваю адукацыю завочна), дык у самой Чаромсе — усяго толькі недзе каля 30 і толькі ад другога да чацвертага класаў (займаецца з імі выпускніца беларускай кафедры Варшаўскага універсітэта Данута Гузейка). Вучням старэйшых класаў, відаць, родная мова ўжо непатрэбная (?).

Дырэктар васьмігодкі Мікалай Міхалюк, які настаўнічае 21 год, расказаў пра некаторыя важнейшыя дасягненні школьнай моладзі. Чаромхаўскія вучні дабіваюцца поспехаў у жывапісе (маляванні), спорце і турыстыцы ды філатэлізме.

Урокі чарцяжу ды малявання вядзе шматгадовы настаўнік Сяргей Смык. Лепшыя свае рысункі вучні высылаюць на тры конкурсы, у тым ліку на адзін агульнапольскі. Найбольш зацікаўленыя жывапісам ды найбольш здольныя — гэта Эва Ваўранюк, Шымон Ламашкевіч, Марцін Шульжык, Агнешка Панасюк, Марэк Колтак і Марцін Раманчук.

Вялікім зацікаўеннем цешацца заняткі па фізкультуры. Найбольш папулярныя дысцыпліны — лёгкая атлетыка, футбол і кіданне ядром. Вось прозвішчы некаторых лепшых юных спартсменаў і спартсменак: Бажэна Шакала, Эвеліна Рошчанка, Кшыштаф Пэжык, Яцэк Ефімюк і Моніка Зінчук. Урокі па фізкультуры вядуць настаўнікі Міраслаў Філіманюк, Галіна Міхалюк і Вера Алексяюк.

Назавем прозвішчы таксама найлепшых філатэлістаў-аматараў. Вось яны: Гжэсь Дудар, Юрка Рошчанка, Караль Дудзін, Юрка Шварц і Тамаш Мішчук.

Добра працуюць школьная святліца (у ёй 60 месц) і бібліятэка, у якой адно звыш 9 тысяч тамоў, а беларускіх кніжак усяго 150. Багата тут школьных падручнікаў для ўсіх класаў і так званых „абавязковых школьных лектураў”. Ёсць неабходныя ў працы настаўнікаў метадычныя і агульнапедагагічныя газеты і часопісы, а таксама „Пломычэк”, „Сьвершчык” і „Місь”. Са штодзённай прэсы — „Жэчпасполіта”. Шкада, што няма тут нашага беларускага штотыднёвіка „Ніва”.

У мінулым годзе ў школе зрабілі капітальны рамонт умывальняў, маляванне некаторых класных залаў, калідора на першым паверсе, кухні. Апрача таго змянілі старое пакрыццё даху. Увесь школьны будынак накрылі шыферам. На гэта школа атрымала фінансавую дапамогу ад беластоцкай Куратарыі і ад Праўлення гміны. Частку рамонтных прац выканалі самі бацькі вучняў.

Школа мае спонсара ў асобе Васіля Піўніка (ён прадстаўнік суполкі ВАБ) з Вулькі-Тэрахоўскай. Дзякуючы яму вучні са шматдзетных сем'яў і няпоўныя сіроты маюць бясплатныя абеды ў школьнай сталовай. Варта дадаць, што спонсар паходзіць таксама са шматасабовай сям'і.

У прадшколлі ў Чаромсе зараз займаецца 88 дзяцей. Яно ў змозе прыняць усіх малалетак.

* * *

У пачатку чэрвеня мінулага года ўзнавіў дзейнасць спартыўны клуб „Чыгуначнік”. Займаецца ў ім працоўная моладзь. Мінулагодняй восенню футбольная каманда з Чаромхі заняла I месца ў класе „Б” у нашым ваяводстве.

Варта адзначыць, што зараз ганаровым старшынёю праўлення спартклуба з'яўляецца войт гміны Міхал Врублеўскі, намеснікамі старшыні — Мікалай Янчук і Анатоль Анішчук ды членам праўлення — Славамір Багроўскі.

*(працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ЧАМУ ТАК ЯНО ЁСЦЬ?

У нашу рэдакцыю паступае шмат сігналаў, што ў Беластоку адміністрацыі жыллёвых кааператываў масава ліквідуюць антэны, якія прымаюць праграму Беларускага тэлебачання. А вось выказванне спадарыні Марыі Гедзіч, якая жыве ў быдынку пры вуліцы Вышынскага 15, члена Жыллёвага кааператыва „Kolejowa”:

„Чаму так яно ёсць, што калі палякам у Беларусі пастаянна пашыраюць магчымасці кантактаў з іх роднай мовай і культурай, нам усё гэта пастаянна абмяжоўваюць? Маюць яны там свае праграмы па Беларускім тэлебачанні і, як самі заяўляюць, пастаянна глядзяць усе праграмы варшаўскага тэлебачання. Ніхто ім у гэтым не перашкаджае, а польскі ўрад дапамагае купляць ім спадарожнікавыя антэны. Такім чынам палякі ў Беларусі маюць поўны кантакт са сваёй бацькаўшчынай. У гэтым самым часе нас брутальна пазбаўляюць нават тых хвілін кантакту з родным словам, якія мы мелі да гэтай пары. Я — пенсіянерка і з невялікай пенсіі стараюся плаціць усе рахункі, а тое, што астаецца, хапае толькі, каб неяк пражыць. Тэлебачанне для мяне — гэта акно ў свет. Гляджу польскія праграмы, глядзела і беларускую. Глядзела, пакуль не знялі з даху будынка антэну, якая прымала праграму з Гродна. Чаму ж мы, беларусы, не можам мець чагосьці на сваёй мове? Гэта ж нікога нічога не каштуе. Тым часам можам глядзець нейкія нямецкія ці чорт ведае якія праграмы, якіх не разумеем. Дзякуючы Беларускаму тэлебачанню, я, як праваслаўная жыхарка Беластока, у апошніх гадах магла адчуваць атмасферу Каляд, Новага года ці Вялікадня. І каму гэта перашкаджала?

Некалькі разоў хадзіла я ў адміністрацыю і пыталася, якія важныя прычыны прымусілі іх пазбавіць беларусаў глядзець Беларускае тэлебачанне. Не адказалі мне нічога, або плялі нейкую "хярню", а ў канцы малады ўраднік параіў мне паставіць спецыяльную антэну на сваім балконе”.

Так больш-менш выглядае роўнасць грамадзян і дэмакратыя ў Беластоку. Такіх спраў ў нашым горадзе тысячы, але мала хто з тутэйшых беларусаў пратэстуе супраць наяўнай неталерантнасці. Найчасцей людзі панаракаюць паміж сабою, папраклінаюць каго трэба і на гэтым усё канчаецца. Спадарыня М. Гедзіч сумленна плаціць усе рахункі, фінансуе ўраднікаў, якія вырашылі зняць з будынка гэтую няшчасную антэну. Мае тады яна права дамагацца, як грамадзянка дзяржавы, пашаны для свае іншасці. Пакуль яшчэ ў Канстытуцыі існуе запіс, які гаворыць, што ўсе грамадзяне, нягледзячы на нацыянальнасць ці веравызнанне, роўныя паводле права, кожны можа змагацца за гэтую „роўнасць”, нават калі ў Беластоку гучыць гэта надта гумарыстычна.

**Рэд.**

# ТУРМА:
## У КОЖНАГА СВОЙ ПОГЛЯД

*Працяг са стар. 1*

неш, бо мясцовае грамадства на гэта не пагаджаецца. На заўвагу, што ў 86-м грамадства тое ўсё-такі пагадзілася, войт коратка адказаў, што тады так, а цяпер не, а ўсе гэтыя пытанні — спроба выклікаць шум вакол турмы ў Кожыне. — Шукайце, рабеце, — дадаў яшчэ Ю. Ігнацюк.

### Вёска Кожына

знаходзіцца ў 20 хвілін язды аўтобусам з Бельска. Распалажана яна над рачулкай Локніцай. Мясцовасць падзелена на два пасёлкі. На пачатку другога пасёлка (калі лічыць ад аўтобуснага прыпынка) у адным шэрагу стаяць: малачарня, крама, турма і будынак пажарнікаў. Крама якраз адчыненая — ёсць крыху народу.

— Войт кажа, што не хочаце ў Кожыне нанава турмы.

— А ці ён каго-небудзь у Кожыне запытаў пра тое, бо мне здаецца, што сам ён гэта прыдумаў.

— Час-часам прыязджае ён у Кожына з нейкімі з Варшавы, ці скуль яны, адчыняе турму ды абводзіць іх. Нешта там мяркуцюь. Прыязджаюць таксама тыя з Беластока, якія хочуць ізноў тут турму зрабіць. Скардзяцца, што войт не адказвае на іхнія пісьмы і прашэнні. А што мы — кара боская, каб падагнаць нашага войта..? Цяпер усюды бізнес, то і кожны шукае толькі лепшай нагоды, каб грапша сабе ўхапіць.

— Чулі мы, — дадае яшчэ нехта, — што мае тут быць асяродак, але павер мне, што

### лепшая турма за AIDS,

бо вядома, што будзе спакой. Вязні пад ключом і наглядам, а тыя „эйдсы”, ці недаразвітыя — толькі адно ўтрапенне. Паразлазяцца па панадворках і што з такім зробіш, а тут і свайго клопату хапае. Запытай, каго хочаш.

— А вязні па вёсцы не хадзілі?

— Аднойчы адзін такі прыстаў да майго мужа: „Звазі мянне ў Гайнаўку”. Адчапіся, кажа мой, я не ведаю, ці маеш пропуск, не хачу бяды. Але турэмшчык не адстае, пакуль мой яго ў тую Гайнаўку не павёз. Нічога дрэннага там не сталася — пабыў каля сваёй бабы, нацешыўся ёю тры гадзіны і вярнуліся.

### Турма — справа няпростая

Вярнуць турму ў Кожына не будзе лёгка. Будынак колькі ўжо гадоў стаяў без аніякага нагляду. Ноччу праз мур лазілі туды ўсякія і павывалакалі адтуль усё, што можна было. Ванны, радыятары, выключальнікі... Калі яшчэ што там уцалела, то напэўна падрыхтаванае, каб расшабраваць.

— Схадзі, калі хочаш, і пабач, які за турмою басейнчык, — дадае адзін чалавек.

Я схадзіў. Нічога ў ім дзіўнага, кажу, няма агароджы. Выглядае як вялікі калодзеж. Навошта ён там?

— Калі будавалі турму, зрабілі яго на „шамба”, але ж памыйная яма не атрымалася, бо пачала выступаць вада — ніяк яе не затрымалі, увалілі хіба тон пяць бетону. Так і засталося. Пакуль, праўда, толькі два сабакі, ліса і крыху курэй страцілі ў ёй сваё жыццё. Толькі чакаць, як паваліцца туды які п'яніца або дзіця, якіх многа на канікулы ў Кожына прыедзе. Можа тады хтось паварушыць мазгамі.

Згоду на ўсталяванне ў кожынскай школе турмы, паводле чутак, даў былы солтыс. Некаторыя мяркуюць, што дастаў за гэта крыж заслугі. Калі б камуна яшчэ троху патрывала, кажуць, то пэўна і меў бы дадатак да пенсіі. Гэта, аднак, толькі чуткі. Несумненным у гэтай справе з'яўляецца толькі тое, што

### ключы да турмы мае войт Ігнацюк.

Турма ў перыяд свайго дзеяння трымала ў сярэднім 50-60 вязняў, кажуць кожынцы, але бывалі моманты, што сядзела там і пад 120 чалавек. Лічба, на прыватную думку аўтара, салідная.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# Беларус у капсуле часу

У Вашынгтоне (ЗША) у адной з бібліятэк знаходзіцца капсула часу. Гэта спецыяльная „скрынка", дзе ўкладзены біяграфіі самых выдатных вучоных сучаснага свету. Прызначана яна для таго, каб захаваць на будучыню інфармацыю пра знакамітыя асобы нашага часу. Праз 500 гадоў будзе яна адкрыта і тады сучаснікі змогуць даволі добра пазнаёміцца з памешчанымі там біяграфіямі. Вось у такім сховішчы знайшлося месца для аднаго беларуса — **БАРЫСА КІТА**. Хто ён такі? Нарадзіўся ў 1910 годзе ў Пецярбургу. Бацька яго пасля некалькіх гадоў вярнуўся на родную Навагрэдчыну. Тут, на Бацькаўшчыне, Барыс Кіт, сын малазямельнага селяніна, ва ўмовах Заходняй Беларусі пад Польшчай, здабыў неблагую адукацыю. Спачатку ў Беларускай гімназіі ў Навагрэдку, а затым у Віленскім універсітэце на матэматычным факультэце. Стаў працаваць педагогам. Адначасова займаўся дзейнасцю ў беларускім руху. Пры саветах і немцах надалей працаваў у беларускім школьніцтве. Прыйшлося яму нават зведаць нямецкія турмы. Толькі шчаслівы лёс выратаваў Барыса Кіта для сусветнай навукі. Пасля вайны апынуўся ён у Амерыцы. Паспеў яшчэ здабыць адукацыю па хіміі ў нямецкім Мюнхене. Пад канец пяцідзесятых гадоў стаў адным з вядомых навукоўцаў у галіне астранаўтыкі. Дзякуючы яму, амерыканцы ў сваіх ракетах могуць прымяняць вадароднае паліва. Гэта ён распрацаваў атрымліванне вадкага вадароду. Барыс Кіт з'яўляецца таксама аўтарам першых у свеце падручнікаў па астранаўтыцы, якімі дасюль карыстаюцца студэнты ды інжынеры ракетнай тэхнікі ва ўсіх развітых краінах свету. Гэты беларус быў у саставе амерыканскай астранаўтычнай кампаніі, што займаецца даследаваннем касмічнай прасторы. Цяпер Барыс Кіт — заслужаны прафесар многіх навуковых установ некалькіх заходніх дзяржаў ды акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Яго прозвішча знаходзіцца ў многіх энцыклапедыях свету.

Толькі ў 1992 годзе Барыс Кіт змог прыехаць у Беларусь, якой быў заўсёды верным сынам у сваім працавітым жыцці. Цяпер вучоны жыве ў Франкфурце-на-Майне (Нямеччына), але, нягледзячы на свой узрост, намагаецца стварыць у Менску Беларускі нацыянальны ўніверсітэт з філіяламі ў розных гарадах Беларусі.

У ліпені мінулага года, пры нагодзе І З'езда беларусаў свету, удалося мне пабачыць у Краязнаўчым музеі ў Навагрэдку экспазіцыю, прысвечаную гэтаму сусветнага маштабу вучонаму. Яго ўзгадавала беларуская зямля. Адукацыю здабываў ён на беларускай мове.

І як тут верыць тым, што даказваюць нашую адсталасць і непрыдатнасць навучання на беларускай мове?!

**ЯН МОРДАНЬ**

# Беларускі каляндар 1994

У студзені г.г. паказаўся на Беласточчыне выдадзены ў Менску „Беларускі каляндар" Беларускага грамадска-культурнага таварыства на 1994 г. Выданне, як можна здагадацца па характары рэдагавання, накіраванае галоўным чынам на чытача ў Беларусі. Рэдактар менскага выдавецтва „Беларусь" Г.П. Касцялецкая паясняе там агульнавядомыя і зразумелыя на Беласточчыне тэрміны, якія, аднак, меў бы цяжкасці расшыфраваць грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Вокладку ўпрыгожвае жаночы калектыў у магілёўскім народным строі. Звонку каляндар робіць уражанне нядрэннага агульнасавецкага выдання. Але, як вядома, найважнейшы ёсць змест. Для чалавека малазарыентаванага ў рэчаіснасці беларускага жыцця на Беласточчыне можа ён здацца нават нудным, але таму, хто мае нейкае ўяўленне пра тое, што адбывалася ў апошніх гадах, раю перад чытаннем „Календара", прынамсі на пачатак, узяць валідол. Пасля прачытання некалькіх старонак календара, нічога ўжо не здзіўляе. Фрагменты чытаецца амаль як славуты твор Сяргея Пясэцкага „Запісы афіцэра Чырвонай Арміі". Калі ўжо на 90 старонцы прачытаў я ў справаздачы Уладзіміра Юзвюка са З'езда беларусаў свету, што на трэцім дню абрадаў я запісваўся да дыскусіі, а пасля не паявіўся на трыбуне, пачаў нават сумнявацца, ці можа з маім розумам штосьць не так. Як памятаю, мая прысутнасць на З'ездзе абмяжавалася толькі да першых 30 хвілін. Пасля адправіўся ў Беласток і глядзеў рэтрансляцыі з гэтага мерапрыемства па беларускім тэлебачанні. Юзвюк у гэтым часе бачыў мяне ў Менску, як я рваўся да дыскусіі.

З усяго зместу асаблівую ўвагу звяртае справаздача Рэвізійнай камісіі на XII З'ездзе БГКТ. Гэта „шэдэўр" цынізму і крывадушнасці.

*У палове кадэнцыі пачала арганізоўвацца партыя — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, — якую ГП нават падтрымлівала...* (жарт?!). *Пачалося стварэнне беларускай рады, якая б каардынавала дзейнасць усіх сямі арганізацый і выбарчых кампаній у сейм і гмінныя самаўправы, але пад кіраўніцтвам Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання. Прэзідыум ГП дазволіў ім выкарыстоўваць транспарт, памяшканні, празмерна доўга штатным супрацоўнікам займацца партыйна-камерцыйнымі справамі.* (с. 50).

Калі стварылі Раду беларускіх арганізацыяў, ніхто не сумняваўся, што БДА будзе займацца справамі выбараў, бо ні БАС, ні „Белавежа", ні БГКТ не прадбачвалі — як арганізацыі — у сваёй статутнай дзейнасці ўдзел у нейкіх выбарах. Большасць кіраўніцтваў новастворaных тады арганізацый былі таксама членамі БГКТ. Сёння Рэвізійная камісія ставіць як прыклад талерантнасці, адкрытасці і міласэрнасці свае арганізацыі сам факт, што дазволілі яны карыстацца сваім членам памяшканнямі і транспартам („Волга"). А калі Віктар Стахвюк ці Пятро Юшчук ехалі ў Чаромху, Чыжы ці Орлю арганізаваць беларускія выбарчыя камітэты, сёння называецца гэта „партыйна-камерцыйнай дзейнасцю". Можа яшчэ і антыбеларускай!

Чытаем далей:

*Адышоў з Прэзідыума ГП штатны намеснік старшыні Аляксандр Іваноўскі, штатныя сакратары, па чарзе: Віталі Луба, Ян Максімюк і Віктар Стахвюк, а таксама Юры Каліна і Мікалай Бушко. Усе зрабілі гэта дэманстрацыйна з палітычных меркаванняў і з разлікам на дэзарганізацыю або развал Таварыства* (с. 50).

Юры Каліна і Мікалай Бушко не былі штатнымі працаўнікамі Таварыства, але гэта найменш важнае. Аляксандр Іваноўскі не адышоў, проста быў ліквідаваны яго штат. А закід, што адышоў дэманстрацыйна і з палітычных прычынаў — гэта ўжо гратэск. Віталь Луба, па прапанове між іншым ГП у 1988 г. стаў галоўным рэдактарам „Нівы". У маі 1992 г. адышоў з Прэзідыума, калі пачалі за яго вырашаць пра склад рэдакцыі. Дзе тут дэманстрацыя і палітычныя меркаванні!? Як гаворыць Віктар Стахвюк — ён сам падаўся ў адстаўку, будучы свядомым таго, што і так „сябры" з ГП неўзабаве выкінуць яго з працы. Цяжка таксама ўявіць сабе Мікалая Бушко, дырэктара Гайнаўскага дома культуры ў ролі контррэвалюцыянера, які з палітычных прычынаў выракаецца арганізацыі, якая мела займацца толькі культурнай дзейнасцю.

*Самае горшае тое, што пачаліся сталыя атакі ў „Ніве" на БГКТ і яго найбольш актыўных дзеячаў. Працягваюцца яны і да сёння. З 1.VI.1992 г. Таварыства страціла свой прэсавы орган „Ніву", якая патаемна была падпарадкавана наспех створанай нейкай Выдавецкай радзе* (с. 50).

Абрыдла ўжо паўтараць, што „Ніва" ніколі не была ўласнасцю Таварыства, а толькі, як большасць газет у Народнай Польшчы, прэсавага манапаліста „РСВ". Пасля ліквідацыі ваяводскіх аддзелаў гэтага канцэрна, спонсарам „Нівы" стала Міністэрства культуры і мастацтва, а грошы на тыднёвік сталі ісці на рахунак БГКТ, бо рэдакцыя такога не мела. Як на гэтым выйшла „Ніва", зараз пабачым.

„Нейкая Рада" (праграмная а не „выдавецкая") у „патаемны" спосаб пачала ствараўцца ў будынку Таварыства ў Беластоку ў прысутнасці начальства гэтай арганізацыі. Толькі калі ўлады БГКТ адмовіліся стаць адным з удзельнікаў Рады, яе стваральнікі вымушаны былі прадаўжаць працу ў іншым месцы. Аб гэтым зрэшты піша складальнік „Календара" на старонцы 63.

І яшчэ адна цытата-кур'ёз з гэтага штогодніка:

**У 1990 годзе ад Міністэрства культуры і мастацтва БГКТ атрымала вельмі высокія датацыі — 4 284 млн. злотых, у тым ліку на патрэбы тыднёвіка „Ніва" — 1 434 млн. злотых і на пабудову музея ў Гайнаўцы — 1 млрд. злотых. Прызначаныя 1 850 млн. злотых датацыі Беларускаму таварыству былі выдаткаваны на набыццё аўтакара „Ельч", мікробуса „Ныса", аўтамашыны „Палёнэз", каляровых тэлевізараў, камп'ютэраў, відэакамеры** (стар. 51—52) .

Пытацца, дзе гэтае ўсё знаходзіцца цяпер, было б здзекам. Таму толькі я пытаюся, дзе падзеліся тыя грошы, якія назначаныя былі „на патрэбы тыднёвіка „Ніва". Паводле дакументаў, якія знаходзяцца ў рэдакцыі, падпісаных і апячатаных найважнейшымі персонамі Таварыства, **на „Ніву" было выдаткавана з датацыі Міністэрства 587 мільёнаў. Што сталася з рэштай — 857 мільёнамі?** Дзе знаходзяцца тыя грошы, якія ў рэдакцыю ніколі не трапілі? У гэтым месцы дзякую Рэвізійнай камісіі за рассакрэчанне тае менш вядомай дзейнасці Таварыства і лічу, што пры дапамозе паліцыі ўдасца Вам высветліць, дзе падзеліся грошы „Нівы".

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

P.S. Ведаю, што пасля гэтага артыкула ў Менску, Варшаве і на Беласточчыне зноў падымецца крык, што „Ніва" аплёўвае высакародных, добрасумленных, працавітых беларускіх дзеячоў, але думаю, што прамаўчаць хлусню, гэта значыць — пагадзіцца з тым, што яна стане адзінай праўдай.

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ЧАТЫРЫ ДНІ ПЕРАД ВЫЗВАЛЕННЕМ

## 3 лютага 1945 г.

Нічога ад учора не змянілася. Унізе той самы штаб, а на панадворку нямецкія салдаты і ўласаўцы з РОА. Гарыць палявая кухня, а мы хаваемся пад дахі, бо ў паветры часта выбухаюць шрапнельныя снарады. Шрапнелі ляцяць дзесьці ў поле, мінаючы, на шчасце, наш панадворак. Хаця фронт ужо блізка, аднак не давялося мне пабачыць яшчэ ніводнага забітага ці раненага. Відаць, іх з-пад лініі фронту адпраўляюць недзе далей.

Сёння з палявой кухні далі мне кацялок кашы з мясам. „Гэта не каніна, а свініна", — папярэдзіў кухар. Сапраўды, іншы смак.

Салдат часта фармуюць у атрады і адводзяць у паўднёвым напрамку. На іх месца прыходзяць іншыя. На дарозе ў Ляўна паменшала бежанцаў і часамі амаль нікога не відаць.

З кіламетр на поўнач ад нашага хутара плыве даволі шырокая рака Алейн (цяпер Лына). Летам я часта хадзіў на яе купацца. За ракой відаць, як немцы рыхтуюць лінію абароны і гоняць туды рабочых з атрадаў Тодта капаць акопы. Добра, што да нас, прымусовых, не чапляюцца.

Фронт, здаецца, затрымаўся на месцы. Час плыве павалі, усё быццам бы застыла, толькі здалёк чуваць перастрэлку. Стаіць невялікі мароз, а на замёрзлай зямлі трымаецца тонкі пласт снегу. Пад вечар надляцеў рускі самалёт, знізіўся над дарогай Памэйрэн — Ляўна і пачаў страляць з кулямёта. Рабілася цёмна і цяжка было разгледзець, ці па дарозе ішлі бежанцы, ці салдаты. Пасля самалёт развярнуўся, праляцеў паблізу нашага хутара і, нікім не палоханы, паімчаўся на ўсход.

Адвячоркам прыйшоў да нас Валянцін і запрасіў нас з Лідкай наведаць яго. Ягоны баўэр з жонкай былі на хутары. Гаспадар аказаўся вельмі сціплым і спакойным чалавекам. Валянцін жыў з ім у згодзе і нават вёў рэй у гаспадарцы. Праўдападобна, гэта сын баўэра, які працаваў дзесьці ў Кёнігсбергу, дапамог Валянціну выйсці з турмы гестапа, куды яго ў пачатку 1944 года пасадзілі, абвінаваціўшы ў сувязі з партызанамі. Валянцін працаваў і жыў там з Насцяй — маладой, невысокай, скромнай дзяўчынай з-пад Ваўкавыска.

Насупраць іх хутара жыў баўэр без чужаземных прымусовых парабкаў. У яго была жонка і дзве дачкі ва ўзросце 14 і 16 гадоў. Абедзьве дзяўчынкі стаялі ля брамкі і пільна глядзелі на нас.

Апынуўшыся ў пакойчыку, Валянцін адразу выцягнуў чвэртку моцнага самагону і стаў нас частаваць. Выпілі, закусілі, пажадалі сабе шчаслівага дачакаць хуткага вызвалення. За размовай нават не заўважылі, што ўжо стала позна. Вяртацца дамоў было небяспечна і мы засталіся начаваць. Валянцін з Насцяй леглі ў ложак, а нам з Лідкай прыйшлося размясціцца на матрацы на падлозе. Пасля самагону я хутка задрамаў. Раптам чую, што Лідка, штурхануўшы мяне ўбок, шэпча: „Ты што, ужо спіш? Не чуеш, як яны кахаюцца?" Трэба было праснуцца.

*(заканчэнне будзе)*

# ГАДЫ СПЕВАМ ЗНАЧАНЫЯ

„Арэшкі” з Арэшкава што ў Гайнаўскай гміне — гэта калектыў заадно вакальны і тэатральны. Жанчыны, калі трэба, спяваюць, іграюць і танцуюць. Такія вялікія ў іх здольнасці і такое адчуванне мастацтва! Няма ў нас трапнай назвы для такіх мастацкіх гуртоў. Наогул на свеце такія як арэшкаўскі фальклорныя ансамблі называюць этнаграфічнымі калектывамі.

Жанчыны з Арэшкава спяваюць мясцовыя песні, свае, якія ў тутэйшых людзей плывуць у крыві. Яны ўзнаўляюць на сцэне розныя народныя абрады і абразкі са штодзённага побыту ў вёсках на ўскраінах Белавежскай пушчы. Калектыўна вяртаюць даўнія песні, даўнія карціны жыцця. Усё гэта выцякае ў іх натуральна і ўдачна, хоць вясковыя жанчыны з Арэшкава і блізка не бачылі тэатральнай школы.

— Пачалося ў Арэшкаве так, — гаворыць Ніна Аўярчук, заснавальніца калектыву, — прыехаў Аляксандр Лукашук з Гайнаўкі. Ён запісваў песні-агулькі, хрысцінныя і вясельныя песні. Сабраў нас і пачалі мы спяваць. Ён нас першы арганізаваў. Два гады мы з ім ездзілі. Потым заняўся намі Янка Крупа. Ён і тэатр у нас заснаваў.

З хронікі калектыву, якую ад пачатку вядзе Ніна, запісваю факты.

26 II 1974 г.: пры гуртку Беларускага грамадска-культурана таварыства створаны мастацкі калектыў; члены — жанчыны з усіх хутароў Арэшкава (жывуць яны ў шырока раскінутай па пушчанскіх гаях вёсцы — аж на 6 ці 7 калёніях, збіраюцца кожны тыдзень, ідучы па 3-4 кіламетры).

27 IV 1976 г.: першы выезд калектыву — у Новае Беразова;

2 V 1976 г.: удзел у аглядзе фальклорных калектываў у Бельску-Падляшскім — на чатыры калектывы Арэшкава займае першае месца (1200 зл. узнагароды, а Ніна Аўярчук як кіраўнік атрымлівае янтарныя пацеркі за 290 зл.). У маі быў грамадскі пачын гуртка БГКТ у гонар VIII з'езда Беларускага таварыства. Удзельнічала ў пачыне 25 чалавек. Садзілі лес. Вартасць пачыну — амаль тры тысячы злотых.

А 20 чэрвеня 1976 года была ўрачыстасць хрышчэння калектыву, назваліся „Арэшкамі”. І на гэтую сваю ўрачыстасць падрыхтавалі і паставілі сцэнку-імправізацыю з вясковага жыцця, „Вечарынку” (у падрыхтоўцы яе дапамагаў інструктар Янка Крупа).

У студзені 1977 года „Арэшкі” прынялі ўдзел у раённым аглядзе конкурсу беларускай песні, а ў лютым ужо ў сваёй вёсцы для сваіх далі дзве ўласныя сцэнкі, у тым ліку „На вясковай вуліцы ў нядзелю раніцай” між іншым на тэму суседскага сужыцця.

Потым іх запрасіў Дом культуры будаўнікоў у Беластоку. Яны паспяхова тут выступілі, і частавалі людзей вясковым хлебам, праснакамі, піражкамі з ягадамі і квасам з дзежкі.

9 XII 1978 г. з багатай фальклорнай пастаноўкай выступілі ў Доме культуры ў Гайнаўцы. Паказалі „Каравай”. Частавалі людзей булачкамі з макам, піражкамі з грыбамі, бульбяной кішкай і хлебным квасам.

У 1979 годзе на фінальным аглядзе фальклорных калектываў паставілі сцэнку „Нявестка” (яна ўвайшла як адна з частак народнага трыпціха). Гэта адно з цікавейшых народных відовішчаў.

І так раслі „Арэшкі”, як на дражджах. Развіваліся самі, развівалі сваю родную культуру, развівалі гледача, усё больш і больш узбагачалі свой рэпертуар. Пастаноўкі „Арэшкаў” заўсёды на высокім узроўні.

Дарогу ў глыб народнага мастацтва паказаў здольным і ахвотным арэшкаўскім жанчынам вядомы (яго яшчэ і зараз успамінаюць многія гледачы) танцор-артыст Янка Крупа. Ён быў тым, хто адчуваў вясковых самадзейнікаў, як ніхто іншы. Ён навучыў выкарыстоўваць багацце народнага фальклору. Арэшкаўскія жанчыны пачалі самі „ўкладаць” сцэнкі з вясковага жыцця, акрашаныя



*Юбілярак віншуе дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко.*

багата песнямі, прыпеўкамі, прымаўкамі, звычаямі. Напрыклад, возьмем „На вясковай вуліцы ў нядзелю”. Які тут сюжэт? Сустракаюцца дзве жанчыны. „Ты знаеш, які мне сон прысніўся...” „А мне які...” Падыходзяць іншыя, сядзяць на лавачцы, расказваюць рознае. Змест такой п'есы даволі свабодны, у кожную хвіліну ў яго можна ўставіць любую новую, прыдуманую фразу, можна яго развіваць, змяніць адным словам, можна імправізаваць. Так гэта жанчыны ў Арэшкаве і рабілі. Таму фактычна ў іх няма запісанага сцэнарыя іхніх сцэнак.

Варта адзначыць, што ў працу ў калектыве ў Арэшкаве ўключаюцца жанчыны з усёй вёскі, сыходзяцца з далёкіх хутароў: Падтрастынньца, Затрастыньца, Гліняньнка, Красніцы, Вэрхоўкі, Зачабутка (цяпер Альшына), Парыева. Найдалей жыве Надзя Грош, якраз у Парыеве. Ніна Аўярчук і Надзя Грушэўская кажуць пра сяброўку: „Але ёй няма ніякіх перашкод, няма дажджу, няма снегу, нават вяселле пакіне і прыйдзе ў клуб на рэпетыцыю. Добрая арганізатарка, найстарэйшая ў нас спявачка”.

Аб Арэшкаве гаворыцца і чуецца навокал. Гэта моцны калектыў. Хаця і ў яго былі два гады перапынку... Ён таксама перажыў перыяд маўчання. Была такая крызісная сітуацыя. Але перамагла непахісная любоў да роднага. І „Арэшкі” зноў адрадзіліся. Калі зноў узялі старт, дык адразу выйшлі на першыя месцы — і ў конкурсе каляднай, і ў конкурсе беларускай песні.

У Арэшкаве вялікая армія дзеячоў роднай культуры. І гэта ўсё жанчыны. Цікавая з'ява, што ў нашай беларускай мастацкай працы ў асноўным займаюцца жанчыны. Мужчыны выступаюць наогул толькі як гарманісты. У Арэшкаве дваццаць жанчын. Іхні гарманіст — Ян Аўярчук.

Вось добра, што гайнаўскія гмінныя ўлады падтрымліваюць культурнае развіццё на сваёй тэрыторыі і адводзяць гэтай справе належную ўвагу. Культура, асаблівая тая, якая выцякае з народных нетраў, з багатых нашых крыніц, тут з'яўляецца важкім фактарам агульнага развіцця гэтай гміны. А вось жа тыя самы „Арэшкі” ўвесь час — а існуюць 20 гадоў — узнаўляюць даўно забытыя народныя жарты, анекдоты, прыказкі, выслоўі — праўдзівыя скарбы роднай мовы і вуснай народнай творчасці.

29 студзеня 1994 года „Арэшкі” святкавалі 20-годдзе сваёй творчай мастацкай працы. З канцэртам выступілі калектывы з Арэшкава і Тыневічаў-Вялікіх. Прыехала багата гасцей — прадстаўнікоў ваяводскіх і гмінных адміністрацыйных уладаў, Беларускага таварыства, Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, Гайнаўскага дома культуры і Гміннага асяродка культуры ў Нарве, а таксама жанчыны з калектыва „Незабудкі” з Курашава (Чыжоўская гміна). Было выказана многа цёплых пажаданняў далейшага красавання на сцэне і слоў падзякі за канцэрт.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ІВАН І МАР'Я

☛ *Працяг са стар. 1*

будуць браць, хто іх ведае... То ж яна з калісь — скарб, як бацькі жылі, зямля — то ж зямля! Але можа і хто купіў бы яе... Але хто ж яе купіць! Абы грошы. А скуль тыя грошы? Пазвальнялі людзей. Хто мае рэнту, то якась выжыве. Але тое „панства” таксама скуль грошай набярэцца?.. Глянь, як у хаце двух-трох рэнцістаў, то не трэба паршучкоў карміць, бычкоў, ха-ха-ха! Лепш рэнцістаў „трымаць”, не? Ну, такая праўда. Але колькі таго жыцця пенсіянеру! Нават піва не вып'е. Калісь, як я быў кавалерам, то да Семяноўкі пешшу хадзілі, бо равароў не было, на забавы. Маем тут аднаго кавалера. Я не ведаю, чалавеча, чаму маладыя цяпер нікуды не паедзе, мае ж аўта. Добры, па-мойму, хлопец, знайшоў бы сабе дзяўчыну. Забаваў яшчэ многа ў ваколіцы, хоць бы ў Бандарах. А ён усё каравы, каравы, каравы!!! Амаль дваццаць кароў, усе ж падаіць трэба, а машыннай даяркі не мае. Яму, можа, каб хто і якую паненку прывёз, то пабыла б з дзень, і хай [illegible] з тымі каровамі! Я хацеў яго нават ужо сам ажаніць. Кажу дзяўчыне: маю для цябе хлопца добрага. А скуль ён? Кажу. Мае жывіны шмат, гаспадарка велікаватая, трактар ёсць. Яна пастаяла, пастаяла, кажа: „Не, на гаспадарку я не пайду. Лепш мне пайсці за добрага рэнцістага ў Беласток!” Во маеш, што такое гаспадар! Вось, у нас „высядка” ўжо.

— Усе людзі з вёскі адыходзяць, — дадае Мар'я. — Было ў нас гаспадароў крыху. А цяпер — хто ў горадзе, хто ў магіле. Хаты пустыя стаяць. Кругом так. Туды за Гайнаўку то яшчэ людзі лепш жывуць...

— Пэгээры паліквідавалі! А з чаго будуць хлеб есці? — хвалюецца Іван. — Зямля ж мяса дае і хлеб, так ці не? Хоць зямлі ў нас не вельмі, але лонкі добрыя. Нас яшчэ крыху малако ратуе. Я дзве каровы прадаў, яшчэ 5 штук маю. Свіней трымаю. Слаба цяпер плацяць, бо „прыватны” ўзяўся наша малако вазіць у Беласток.

— У нас у вёсцы то так кругом, — уздыхае гаспадыня. — Ну, двух гаспадароў засталося. Думаеце, дзецям хочацца памагаць? Сваю работу маюць. Мае чалавек „блёк” абстаўлены, то што, пойдзе ў вёску? Яшчэ добра, як гаспадарка пабудаваная, але хто пойдзе ў такія буды, як у нас? Праедзьцеся па вёсках — крапіва толькі расце!

— Ну, не так кепска. У Круглым Ляску трох хлопцаў ёсць, працуюць, накупілі зямлі, маюць камбайн. І паненку адзін, наймалодшы, прывёз з усходу. Першакласная дзяўчына. Трымаюцца. Але вось у суседняй вёсачцы — глянь, маладыя хлопцы, а да чаго дажыліся?! Як меў матку-рэнцістку, давала грошы, то стаяў у краме, а цяпер... З такіх у вашым узросце то можа што і будзе, але ў маім, — смяецца Іван, — то ўжо ні кавалер, ні гаспадар. Але, маладыя кажуць: „Не аплачваецца”, але я мяркую, што на гаспадарцы можна рабіць і жыць. Але цяпер папрывыкалі, каб „летко”, каб „ніц” не рабіць, а добрыя грошы мець. У цэлай краіне — адно крадзяжы, узломы. Дзіця прыходзіць у краму галоднае — булачку возьме. Вось, з чаго мы зробім хлеб?..

Было ўжо зусім цёмна, як мы выбраліся мы з Калясногa. Скрыжаванні, завеяныя снегам. Ні ў каго запытаць. Меркавалі мы, меркавалі, але выехалі на шашу ў Беласток. Шаша простая, не тое, што пакручастыя, забытыя дарогі...

**МІРА ЛУКША**

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## III. Клімат.

Беларусь характарызуецца ўмераным кліматам. Асаблівасці клімату вызначаюцца становішчам краіны ва ўмераных шыротах, блізкасцю да Атлантычнага акіяна, адсутнасцю прыродных рубяжоў на шляхах паветраных мас — марскіх з захаду, кантынентальных — з усходу і паўднёвага ўсходу. З захаду на клімат робяць уплыў вільготныя паветраныя масы. Яны змякчаюць зімовыя маразы і памяншаюць летнюю спякоту. З усходу прыходзяць сухія кантынентальныя паветраныя масы, якія прыносяць зімой моцныя маразы, а летам — гарачае і сухое надвор'е.

Сярэдняя тэмпература паветра ў Беларусі — умераная. Яна паступова павышаецца з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад ад 4,5° да 7,2°С. Сярэдняя тэмпература студзеня ў Брэсце складае — 4,4°, у Оршы і Віцебску — 7,8°. Летам самая высокая тэмпература на паўднёвым усходзе Рэспублікі: у гарадскім пасёлку Камарына яна складае ў ліпені + 19,7°, самая нізкая — на паўночным захадзе: у Верхнядзвінску сярэднеліпеньская тэмпература + 17,5°.

Беларусь атрымлівае дастатковую колькасць ападкаў. Іх выпадае 550—650 мм у год на нізінах і раўнінах, а на ўзвышшах — 700—750 мм і больш. Гадавы ход ападкаў набліжаецца да гадавога ходу тэмпературы. Больш за ўсё ападкаў выпадае ў самыя цёплыя месяцы — ліпені і жніўні, менш за ўсё — у лютым і сакавіку. Каля 70% ападкаў выпадае ў цёплую частку года ў якасці дажджу. Зімой ападкі выпадаюць звычайна ў выглядзе снегу. Найбольшай магутнасці снежнае покрыва дасягае пад канец зімы: на паўночным усходзе Рэспублікі таўшчыня яго даходзіць да 30—40 см, на паўднёвым захадзе — да 10 см.

Для Беларусі характэрна павышаная вільготнасць паветра. Позняй восенню і зімой адносная вільготнасць паветра перавышае 80%, самая нізкая звычайна бывае ў маі — 55%. Павышаная вільготнасць з'яўляецца прычынай частых туманаў, воблачнага неба. У сярэднім за год колькасць сутак з ападкамі складае ад 159 да 193.

Усходы ў Беларусі добра выражана змена пораў года, звязаная са змяненнем вышыні Сонца над гарызонтам і працягласцю дня.

**Ю. БАЕНА**

# Зорка
## старонка для дзяцей

Вершы Віктара Шведа

### МАЮ ЖАЎТУХУ

Прыём у шпіталі.
Хлопца запыталі:
— Ці ты, Адаме,
Маеш піжаму?

Магчыма, талкова
Не зразумеў ён слова,
А можа дрэнна слухаў,
Сказаў: — Маю жаўтуху.

### ПЕРШАЯ ЎДАЧА

— Маеш ты першы раз удачу, —
Настаўнік вучня пахваліў. —
Твая дамашняя задача
Беспамылковая на здзіў.

Настаўнік мае да Ігната
Заўсёды многа засцярог.
Спытаў: — Прызнайся, твайму тату
Ніхто ў рашэнні не памог?

### ЗАПЛЮШЧ ВОЧЫ

Цётку старэнькую Агата
Просіць аднойчы так папросту:
— Заплюшч свае ты вачаняты.
Цётка пытаецца: — Навошта?

— У таямніцы ўчора ўночы
Сказаў нам татачка харошы:
„Калі заплюшчыць цётка вочы,
Тады мець будзем многа грошай".





*Мірэк Супрун (са школы ў Новай Волі) і Рафал Амановіч (з Беластока) з сабакам Джэрым паказалі ўвечары дарогу журналістам "Нівы" з Супруноў у Калясное.*

* * *

*Анэта з Анцутаў з бабуляй пахваліліся сваімі прыгажунамі — коцікам (салодка спаў і не хацеў пазіраваць) і ласкавым Дэксікам.*

**Фота М. Лукшы**

Старажытныя рамёствы Беларусі

## СОНЕЧНЫЯ ПЛІТКІ

Калі давядзецца пабываць у Маскве, на блізкай ад цэнтра вуліцы Вялікая Палянка, абавязкова звярніце ўвагу на старую мураваную царкву, аздобленую суцэльным поясам з рознакаляровай кафлі. Гэты незвычайны кафляны дыван — работа беларускіх майстроў.

З'явіўшыся ў XIII стагоддзі ў краінах Заходняй Еўропы, кафля як канструктыўны элемент печаў ужо ў XIV стагоддзі была шырока распаўсюджана і на тэрыторыі Беларусі. Спачатку яна мела цыліндрычную ці канічную форму і выраблялася на ганчарным крузе, але неўзабаве вынайшлі каробчатую кафлю з плоскай паверхняй, на якой зручна было адціскаць розныя выявы. Якраз такая кафля і прынесла славу беларускім майстрам.

З XVI стагоддзя кафля ў вялікай колькасці вырабляецца ў многіх беларускіх гарадах: Менску, Магілёве, Гродне, Пінску, Віцебску, Заслаўі, Лагойску, Быхаве, Полацку, Мсціславе і інш. Кафлярства становіцца адным з вядучых рамёстваў. Печы „образцов малеваных" зіхацелі разнастайнымі малюнкамі геаметрычнага, расліннага, зааморфнага, геральдычнага, міфалагічнага характару, яркімі сакавітымі фарбамі рознакаляровай палівы, нагадваючы дзівосны дыван.

Беларускія майстры-кафляры ўпісалі яркую старонку і ў гісторыю рускага мастацтва. У сярэдзіне XVII стагоддзя ў выніку руска-польскай вайны шмат беларусаў апынулася ў Маскоўскай дзяржаве. Там на той час выраблялі толькі аднатонную зялёную („мураўлёную") кафлю. Беларускія майстры прынеслі традыцыю вытворчасці паліхромнай кафлі, якой аздаблялі не толькі печы, але і сцены манументальных збудаванняў, выкладвалі ёю карнізы, балконы, парталы, іканастасы. Да нашых дзён у Маскве і яе ваколіцах захаваліся такія пабудовы, знутры і звонку аздобленыя сакавітым паліхромным дыванам з рознакаляровых гліняных плітак. За сотні гадоў фарбы не пабляклі, не выцвілі і сёння ярка пераліваюцца ў сонечных промнях, здзіўляючы нас высокім майстэрствам.

**ЯЎГЕН САХУТА**

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ

## У КАЗЛА

Хлопчыкі становяцца ў круг і гуляюць у мячык. У каго мячык упадзе, той працягвае рабіць тыя рухі, якія пачаў, і так да таго часу, пакуль нехта засмяецца. Таму, хто засмяяўся, запісваюць літару „к". Так гуляюць, пакуль хто-небудзь з удзельнікаў не атрымае ўсе літары слова „казёл" і кропку. Тады „казёл" становіцца нагнуўшыся сярод поля, а праз яго ўсе скачуць.

## Ну, мурашка, здзівіла!

Калі каты ці сабакі вяртаюцца дадому за сотні кіламетраў, гэта нікога не здзіўляе. Нядаўна заолагі ў паўднёва-ўсходняй частцы Туніса прасачылі за рухам мурашкі, якая прапаўзла шлях у 592 метры па вельмі складанай траекторыі.

Знайшоўшы сухую муху, мурашка ўпэўнена прыцягнула яе дадому па абсалютна прамой лініі даўжынёй 140 метраў. Якія ж арыенціры выкарыстоўвала яна ў стэпе?

Калі вучоныя аднеслі мурашку на адлегласць, якая для ката адпавядала б 200 кіламетраў, мурашка, нядоўга думаючы, паварушыла кароткімі вусікамі і папаўзла дадому па прамой лініі.

Нечаканая загадка прыроды, над якой трэба паламаць галаву вучоным.

## Смоўж-наследнік

Эксцэнтрычная каліфарнійская мільянерка завяшчала 22 мільёны долараў смаўжу, які жыве ў яе садзе. Пажылая жанчына вельмі любіла гэтага малюска, якога яна называла Сэмі. Апошнія гады жыцця яна праводзіла ў садзе, гутарыла са сваім любімцам. Згодна завяшчанню, грошы пойдуць на ўтрыманне сада, дзе жыве Сэмі.

## ШКЕЛЬЦЫ

### 5

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## УДАР

Калі мне гавораць, што маю надзвычай спакойны характар, я пагаджаюся, але пра сябе пасмейваюся. А калісь проста здзіўлялася, не разумеючы, што напружанае ўнутранае жыццё, боль, гнеў, радасць душы вядомыя толькі мне самой.

Выпадак, пра які я хачу расказаць, прычыніўся вясной. У тую вясну нам асабліва хацелася есці. Не таму, што ў сталоўцы блага кармілі — проста рабілася гэта, як належала, строга па раскладу і норме. А голад прыходзіў якраз за гадзіну да абеду ці дзве гадзіны пасля вячэры... Мы кралі на кухні хлеб, выносілі яго, хаваючы ў кішэнях, а пасля, у цемры спальні, націралі чорныя скарыначкі часнаком і прагна з'ядалі. На парослым сакавітай травою беразе вадасховішча, што пачыналася адразу за могілкамі, мы шукалі дзіды маладога шчаўя; часам нехта „адкрываў" яшчэ якуюсь уежную траву, зеляніну, і яна таксама разнастаіла наша харчаванне. Асаблівым далікатэсам лічыліся вясновыя „свечкі" ялін, тым больш, што іх было ўдосталь. Верхняя скурка са светла-карычневымі лушпайкамі здымалася з іх спіраллю, адкрываючы белую, смалістую на смак, сэрцавіну. Не верылася, што гэта ўсяго толькі пушынкі — будучыя іголкі. Мы ўспрымалі гэтыя дзівосныя, нябачаныя ў горадзе пляды як дарунак вясны спецыяльна для нас...

У адзін з такіх веснавых дзён я ўдарыла сваю лепшую сяброўку Волю і разбіла ёй губу да крыві. Зусім не помню моманту самога ўдару. Спрабуючы пасля прааналізаваць, што адбылося, прыгадвала толькі шалёны ўсплеск нянавісці... Але падставу — забылася... Здаецца, гулялі ў „класікі", засправаліся...

Волю я любіла больш за ўсіх аднакласніц. Яна была спакойная і разумная. Напэўна, ударыць і лягчэй за ўсё таго, каго любіш. Воля стаяла, здрыгнуўшыся і закрыўшы твар рукамі. Я неўразумела глядзела на свой кулак, спалохаўшыся цёмнай сілы, што ўскалыхнулася ўва мне. Волю ніхто не шкадаваў і не суцяшаў. Наадварот, да мяне падыходзілі дзяўчаты і казалі, што я правільна зрабіла, бо гэтая Волька „задаецца". Я адмахвалася ад нясцерпных думак пра свой учынак. Гульня працягвалася. Круглая пляскатая скрыначка з надпісам „Вазелін" на зялёным фоне слізгала па раскрэсленым асфальце.

Надышоў час вячэры. Мы з Воляй упершыню ішлі ў сталовую паасобку. Хаця дзяўчаты і казалі, што ў Волі ішла з губы кроў, цяпер нічога не было заўважна — хіба лёгкая прыпухласць... Воля нічога не сказала мне, не пагражала, не скардзілася... Яе левая рука, пазбаўленая нерваў (так тлумачыла сама Воля, у доказ моцна б'ючы кісць рукі аб жалезную парэнчу ложка), звісала бездапаможна і спакойна, правая час ад часу падымалася да вуснаў...

Праз нейкі час выхавацелька прасачыла, каб мы ўклаліся ў ложкі, сказала „Дабранач" і выключыла святло. Амаль адразу загрукалі дзверы тумбачак, пачуўся пранізлівы пах часнаку. Я чула, як побач Воля разгортвала пачак пячэння, прывезены з дому. Зараз яна ўсіх пачастуе па няпісанаму закону інтэрнатаў... Як яна звернецца да мяне?.. Гарачая хваля сораму кранула мне шчокі.

— Людачка, вазьмі... — я не прасіла даравання, але атрымала яго.

Мусібыць, адсюль пачынаецца мая вечная боязь кагосьці пакрыўдзіць, боязь, якая стрымлівае мяне нават тады, калі не пашкодзіла б узвысіць голас, замахнуцца...

Недзе за вакном, на захутаных у туман ялінах, запальваліся новыя „свечкі", а на сівым ад расы лузе прадзёўваліся такія кволыя, але надзеленыя неадольнай сілай маладога жыцця, дзіды шчаўя...

*(працяг у наступным нумары)*

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

# ЗВАНІЦА ЮРКІ

Трымаю ў руках свежую кніжыцу Юркі Генюша „З маёй званіцы". Выйшла летась, увосень. Намагліся на тое людзі „Нівы". І невыпадкова: творчы лёс яе аўтара — гэта і віры нашага, блізу паўвяковага, тыднёвіка. Змянілася ўжо ў часопісе амаль усё, акрамя назову, старонкі „Белавежы", кулінарных парадаў, ну і „Сэрцайка"... Прыйшлі маладыя. Без уласнае гісторыі, якой, памалу, таксама абрастуць. Ва ўзросце яны дзяцей Юркі.

Сам ён быў мне, лічы, равеснікам. Калі б жыў, рыхтаваўся б да шасцідзесяцігадовага юбілею. Маё пакаленне цаніла яго не за фельетоны ды апавяданнейкі „З маёй званіцы". Бачыла ў ім „чорнага лірыка" з комплексам няяснай жыццёвай крыўды (выдалі пасмяротна зборнічак „Маці і сын"). Мы ведалі прычыны таго, але нас злавала ягоная незабыўлівасць. Слаўная яго маці выжыла ж з бацькам у сібірскай ссылцы; вярнуліся ў свой дом у Зэльве! Чаго больш хацець? У сталінізм. Іх сын, выратаваны ў напаўроднай яму Празе Чэшскай, вырас на беластоцкага лекара. Шчаслівa завёў сям'ю, гурт сяброў. Усенька як быццам уляглося ў чалавечую звычайнасць... І, раптам, упартае ў ім прыраўноўванне сябе з рабскім неграм! У чыстай паэзіі.

Тое даводзіла нас да ірытацыі. Даволі раздвоенай. Здагадваліся небяспечнага намёку, які шмат каму, дарэчы, адпавядаў па-ціху. Разам з тым рабілася кожнаму ясным, што такія тэксты арыштуе цэнзар, не пусціць у друк, наскандаліць у тутэйшым Белым Доме, па-правінцыйнаму звышпільным. Інтарэсы польскай беларускай літаратуры мала чым адрозніваліся ад савецкай, патрабавалі аднаго: супакою, так сказаць, лірычнай цішыні. Усякая контра пагражала катастрофаю, самазніштажэннем.

Што ні прынёс Генюш у рэдакцыю, успрымалася з інстынктыўнай насцярогаю. Рэдактар яго твораў, апрача трывіяльных турботаў прафесіі, мусіў думаць, як прапхнуць іх на паласы. Не заўсёды ўдавалася паразумецца і з Юркам, які нязменна ўпераконваў, што трэба рызыкнуць. Лёгка ўпарціцца, калі кавалак твайго хлеба ляжыць далёка адсюль, не ўхопіць табе яго аніякі палітрук... Сёе-тое не публікавалася. Чакала лепшых гадоў.

Перашкаджаў беларускі патрыятызм, пераназваны хамамі нацыяналізмам. За яго, праўда, не судзілі, як у саветаў, але кар'еры ты з ім не дабіваўся. У „Ніве" беларускі фасон неяк трымаў шэф. У „беларускіх" жа ліцэях гудзеў пажар паланізацыі. „Белавежцы" яшчэ ездзілі туды з аўтарскімі сустрэчамі, да вучняў даводзілі пакуль што роднае слова, насуперак прошапанскім педагогам. Сёння пабудзь ты ў Гайнаўскім — жыць адхочацца: рэакцыя на беларушчыну блізкая варожай! Дык на што нам такія ліцэі? На халеру яны? Тыя траянскія коні.


*Юрка Генюш і аўтар гэтых радкоў недзе пад канец 60-х гадоў.*

Юрка Генюш перажываў. Меў благую загану: каб пісаць, павінен быў адчуваць пах друкарскай фарбы. Журналісту гэта нармальнае. Пісьменніку ж самазабойчае. Калі нешта канчаткова не праходзіла, страчваў цікавасць да тэмы. Браўся за іншую. Нервова або зусім не. Час-часом патрэбны быў яму паганяты. Здарылася мне — у шасцідзесятыя — рэдагаваць чарговы „Беларускі каляндар". Юрка не падрыхтаваў абяцаны матэрыял, немалы зрэшты. Што чыніць? Я заманіў яго ў сваю высокапавярховую кватэру, пакой замкнуў ключом, і ў наступіўшыя перамовы праз глухія дзверы ўзгодніў з ім, што выпушчу яго адтуль толькі з гатовым рукапісам у руках (запас ежы і піва паставіў там загаддзя плюс гарантаваны выхад у туалет). Потым той тэкст хвалілі рэцэнзенты. Літаратурная творчасць наогул „белавежцаў" мела месца іншы раз у камічнейшых абставінах, аб чым успомню пры зручнейшай нагодзе. Сцэны, вартыя вялікага „Уліса"!

Юрка жыў як інтэлігент. Быў ім у другім калене, што ў нашым асяроддзі сялянаў з універсітэцкімі дыпломамі ўяўлялася нечым унікальным. Не арыентаваліся, што сапраўдны інтэлектуал бывае не раней як праўнук найпершага. Божа, колькі яшчэ да аўтэнтычнае ў нас элітарнае праслойкі!? І ці прычакаем таго як нацыя?

На інтэлігента немагчыма вывучыцца. Ім трэба нарадзіцца. Гэта бачна не адразу. Тады здавалася, што ўсе мы да апошняга герольды нацыянальнага. У тадышні цуд эмансіпацыі грамадскіх нізоў. Цяпер жа голым вокам відаць — узяліся за непасільнае, перарастаючае нас. Ciasteczko przerosło konsumenta, — сказаў бы слынны іраніст польскасці Вітальд Гамбровіч. А Юрка вызначыў бы болей даступна: паплылі здохлымі жабамі на паверхні жыцця...

Хутка здрабнелі.

Дакранаюся да тайніцы яго ранняе смерці? Адыходу з самотнага натоўпу. Ягоны ўдзел у літаратурных імпрэзах рэдка канчаўся ціхамірна. Не ўтрывала калісьці і сама „Ніва", апавясціўшы Юрку Генюша буяном. Прычына знайшлася, і то цалкам абгрунтаваная (ці не шафёра БГКТ налупіў?). Так, не кваліфікаваўся ў апосталы: і шумеў, і піў, і брыдкасловіў. Ды чаму? Сумняваюся, ці было гэта каму незразумелым... Не ў тым справа. Эпоха выпала не тая, каб не баяцца за яго і за сябе. Не так кажу: менавіта за сябе спачатку. Ва ўмовах татальнае інвігіляцыі. Падобнае абнюхванне і цяпер, але без службовых ды бытавых паслядоўнасцяў. Глупствы зрабіліся дазволенымі, бо без гэтага няма дэмакратыі. У таталізм абавязвае крывавая павага!

Абавязвала яшчэ і тое, што, нарэшце, ужо не абавязвае: адзінаслушнае выхоўванне грамадзяніна. І Юркі. Мудрагелілі над ім шэфы і мы, іх падручныя. Сённячы, звычайна, пазбягалі б яго. Абыходзілі б бокам. Нашто каму зараз клопат з авантурным і нестаранлівым у пісьме аўтарам? З чарнавікамі якога даводзілася насядзецца поначы, каб атрымаўся з іх нябрыдкі твор (не гаворачы пра цэнзурнасць). Але не ў тую пару. Гэта не мы, а Юрка Генюш мог пайсці бокам, што аказалася б... палітычным недаглядам асяроддзя, у якім, акрамя яго, я не памятаю, каб хто не запісаўся быў у партыю або не прыбіраўся ў яе, хлебаносную (не турбавалася ідэалогіяй машыністка Марыся, яна знаходзілася па-за рахункам).

Юрку далі ў рэшце рэшт сваю званіцу. Не часта, аднак, званіў. Пазвоньваў. Званіцы, як званіцы, патрэбна службовая рэгулярнасць. Сур'ёзнасць. А ён жартаваў з тае эпохі, нярэдка даючы партыйцам салодкую ілюзію класавага перавыхавання, свайго набліжэння да іхных ленінскіх пазіцыяў... Ха-ха-ха!!! Кпіў, ды пакпілі і з яго ў абвальны грукат штатнага камунізму. Як цвёрдаму беспартыйцу, запрапанавалі з паважлівасцю клоўна пасаду галоўнага рэдактара „Нівы". І Юрка, добрая душа, паверыў чарказвонным... Каму? У адзін гарэлчын вечар, у белагвардзейскі гевалт „Салідарнасці", забег ён да мяне намаўляць згадзіцца быць ягоным намеснікам... Я ж, каторы ўжо год, карпеў у „варагах народу", швэндаючыся ў выпадковых заробках, выплакаўшы напрыканцы паўрычалт тэхнічнага рэдактара „Нівы". Нават з паверыў яму на кароткі міг, каб у наступны істэрычна рассмяяцца ад неверагоднасці...

І так без канца згадваюцца эпізоды, перачытваючы „Званіцу". Яшчэ раз працавіта адрэдагаваную, цяпер Мірай Лукшанкай, талент якое рана ён прыкмеціў і падбухторыў мяне зайсці з ружамі да хворае паэткі ў шпіталь. Але там сказалі, што яна тым часам выпісалася дамоў.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**




*БАРЫС РУСКО*

**ТРЫВОГА**

Агонь на небакраі,
над небакраем,
прад небакраем.
Неба гарыць
і вакол неба,
зямля
і вакол зямлі.
Навокал.
Небакрай у агні,
цела ў агні,
душа ў агні.
Душа згаральная,
як ціш-воск,
як цень-воск,
як імгла-воск.
Цела ў клешчах,
розум у клешчах,
небакрай у клешчах.
Клешчы ў агні,
схапілі за горла.
Ратуйма сябе
і ў сябе іншых,
Ратуйма іншых
і ў іншых сябе.
Ратуйма душу,
каб не ўрасла ў камень,
у халодны дарожны камень.

**ПОШУК**

Паміж гарызонтам
плоскасць і піраміда,
а ў пірамідзе страсць.
Прад гарызонтам
парабала і бутон,
а ў бутоне святло.
За гарызонтам
крывая і ракавіна,
а ў ракавіне слова.
Пад гарызонтам
драбіна і ступені агню.
Над гарызонтам
гармонія і гульня,
а ў гульні варажба.
На гарызонце
капліца і ражок веры.
У гарызонце
згушчаная да нуля
бясконцасць.

*СТАНІСЛАЎ ВАЛОДЗЬКА*

**ЗІМА**

Снег кранае да слёз у мароз...
Толькі дзе яны? — ледзь не да слёз
Крыўдна часам, здзіўляемся мы,
Што не выпрасіць снегу... ў зімы.

А бывала злой феяй не раз —
Гурбы суму навее на нас,
Горы снегу вакол намяце
І застыне ў глухой немаце!

Помню маці мяне падняла:
— Ой, завея вуллі замяла!
Трэба неяк нам раду даваць —
Пчол, карміліц сваіх, ратаваць!

Не сапля ўжо — зялёны смаркач,
Я ўгаворваю маму:
— Не плач,
Не малы ж я — мне дзевяць гадоў. —
Хоць і сам жа заплакаць гатоў.

Даўшы пчолкам паветра дыхнуць,
Мы з палёгкай маглі уздыхнуць,
Хоць пад вечар не чулі рук-ног.
І ніхто не прыйшоў, не памог...

Толькі гэта яшчэ з паўбяды.
А старым як было да вады
Дакапацца?
А потым — да дроў?
Вось каму па каму — будзь здароў!
Вось каму часам крыўдна да слёз:
Дзесьці дзеці у многіх іх ёсць,
А нібыта зусім іх няма...

Добра, хоць падабрэла зіма!
Гуманоіды, можа, ўраклі, —
Што аж слёзы ў яе пацяклі!
Ці, мо, людзі так чаду далі, —
Што да плачу зіму давялі!

**НА ДАРОГУ**

Мне праясніцца праз сум:
Касавіца — ветру млосна!
Ты расчэсваеш касу
Пад бярозай высакоснай.

Жніўнай раніцаю той
Зноў мне высветліцца раптам:
Залаты — зусім як твой —
У касы тваёй
характар!

Жар — пяром не апісаць —
Што зусім не жарту варта:
Як хвалюецца каса
Па маёй чупрыне ўпартай!..

Растае туману сум,
Пад касатаю бярозай
Ты расчэсваеш касу —
Мне прысніцца —
На даро-огу!

# НАШЫ КАРАНІ

## LXII. ЕВАНГЕЛЛЕ, ВЫКАЗАНАЕ КОЛЕРАМІ

Мы, праваслаўныя, глыбока шануем іконы. Ікона для нас — гэта Евангелле, выказанае колерамі. Ікона вядзе нас да спазнання Бога сваёй прыгажосцю, накіроўвае набожныя думкі да постацей, што прадстаўлены на ёй, і пабуджае да наследавання іх. Іконы ўзвышаюць чалавека, які моліцца перад імі. Яны дадаюць надзеі і бадзёрасці падчас варожай навалы, у няшчасцях і нягодах, у хвіліны сумнення і духовай слабасці. А ў часах засілля іншавер'я і зверскага праследавання Праваслаўя ў XVII-XVIII ст.ст. і падчас нядаўняга нябачанага ў двухтысячнай яго гісторыі вынішчання хрысціянства бальшавікамі захаваная ў вялікай таямніцы, нягледзячы на пагрозу быць за тое расстраляным, сасланым у ГУЛаг ці пазбаўленым працы, ікона часта была самай дарагой і адзінай сямейнай святыняй для многіх людзей. Таму нават у найцяжэйшыя для праваслаўных часы не спынялася стварэнне новых іконаў.

Іканапіс на беларускіх землях паўстаў і развіваўся з першых стагоддзяў прыняцця хрысціянства. Першапачаткова ён працягваў традыцыі візантыйскага іканапісання, але з бегам часу ў ім выразней і ярчэй пачалі выступаць беларускія адметныя нацыянальныя рысы. Буйны росквіт іканапісу на Беларусі наступіў у XIV-XVI ст.ст., калі адбываўся працэс станаўлення ў ім беларускай школы. Тады на беларускіх землях працавала значная колькасць іканапісцаў і яны былі ў вялікай пашане, а іхнія работы высока цаніліся. У 1482 г. архімандрыт Ляшчынскага манастыра пад Пінскам, Васіян, напрыклад, даў 100 рублёў іканапісцам, якія „писа чудно вельми Деисус с праздниками и пророками". Пры некаторых манастырах, як напрыклад у Куцеіне каля Оршы, дзейнічалі школы, у якіх таленавітую моладзь рыхтавалі да гэтай вельмі адказнай, адухоўленай творчасці.

Н.Ф. Высоцкая, складальніца альбома „Іканапіс Беларусі XV-XVIII ст." (Мінск 1992), піша, што „ў беларускіх гарадах перыяду росквіту гуманізму, рэфармацыйнага руху, развіцця кнігадрукавання працавалі жывапісцы — Навоша, якому пінскі князь Фёдар Яраславіч у 1525 г. „дал две дворыщи в селе Серниках и двор в месте Пинском"; у Гродна ў 1539-1540 г.г. — Афанасій Антановіч. У 1570-1580 г.г. была вядома цэлая група „маляроў магілёўскіх" — Ісак Івановіч, Макар Акулініч, Ламака Федаровіч, Семяновіч, Дзімітр Івановіч, Макар Маляр, Макарова Малярова, што і дае магчымасць дапусціць існаванне ў гэтым горадзе малярскага цэха. У Мінску ў 1591 г. жыў мастак Іеранім... Зараз вядома, што ў XVI ст. працавала каля 26 жывапісцаў, 44 скульптараў, 105 залатых спраў майстроў".

У тыя часы быў звычай высылаць маладых іканапісцаў у вандроўку ў суседнія і болей адлеглыя краіны дзеля паглыблення сваіх уменняў і бліжэйшага азнаямлення з рознымі творчымі плынямі. У выніку ў беларускай іканапіснай творчасці XVI ст. відаць уздзеянне нямецкага, нідэрландскага, польскага і асабліва моцныя ўплывы балканскага мастацтва. Да таго асаблівасці гістарычнага лёсу беларускага народа паклалі адбітак і на наш праваслаўны іканапіс. Стваральнікі іконаў на беларускіх землях спачатку прытрымліваліся візантыйскіх канонаў, а потым узбагачалі іх рэнесансавымі элементамі, затым багата чэрпалі з традыцый беларускага народнага мастацтва.

У стылі візантыйскага, „палеалогаўскага адраджэння", створана выдатная ікона „Маці Боскай Замілаванне", што захавалася ў Маларыце каля Бярэсця. „Прывабліва незвычайнай велічнасцю кампазіцыі, манументальнасцю вобразнага ладу і падкрэсленай экспрэсіўнасцю", — піша беларуская мастацтвазнавец Э.І. Вецер пра ікону XV ст. „Адзігітрыя Іерусалімская" са Свята-Варварынскай царквы ў Пінску. Гэтыя і іншыя, цудам захаваныя ад пажараў, войнаў, вынішчання іншаверцамі і атэістамі творы „дазваляюць меркаваць аб вельмі высокім узроўні развіцця сярэднявяковага мастацтва на беларускіх землях", — сцвярджае тая ж мастацтвазнавец.

У панаванне апошніх Ягелонаў на беларускіх землях адбываецца ў стварэнні іконаў паступовы пераход да мастацкіх метадаў Рэнесансу. Тады іканапісцы імкнуцца перадаць узнёслыя пачуцці і ўзўленні праз звыклыя з'явы і рэчы. Прыкметы пераходу ад Сярэднявечча да Рэнесансу відаць у многіх беларускіх іконах, у тым ліку „Маці Боская Іерусалімская" са Здзітава, „Святы Цудатворац Мікола" з Ляхаўцаў (абедзве мясцовасці на суседняй з намі Берасцейшчыне), а таксама „Святая Параскева Пятніца" са Случчыны, „Мадонна" са Свята-Мікалаеўскай царквы ў Вільні (створана каля 1518 г.) і ў многіх іншых, з іх некаторыя знаходзяцца на Беласточчыне. Неабходна аднак, заўважыць, што новыя рэнесансавыя элементы ўспрымаліся праваслаўнымі іканапісцамі асцярожна. Яны выбіралі з новых веянняў самае лепшае і стараліся пры тым не страціць нічога з ранейшай, выпрацаванай доўгімі стагоддзямі роднай традыцыі ўсё каштоўнае, велічнае, адухоўленае. Пры тым узбагачалі свае творы элементамі мясцовага беларускага народнага мастацтва і такім чынам святасць станавілася зразумелай і блізкай кожнаму чалавеку.

Паўставалі таксама іконы ў цалкам новым, рэнесансавым стылі, як напрыклад у іканастасе Свята-Сымонаўскай царквы ў Кажан-Гарадку на Берасцейшчыне. На іх постаці апосталаў Лукі, Сымона, Паўла, Іаакава, Іуды манументальныя і велічныя, але і вельмі натуральныя, як быццам спісаныя з жыцця. Аднак гэта не памяншае іх адухоўленай годнасці.

І такім чынам са сплаву візантыйскіх традыцый, рэнесансавага бачання свету і ўздзеяння народнага мастацтва ў XIV-XVI ст.ст. паўставаў беларускі іканапіс. Ён унёс у беларускую культуру важкія духоўныя і мастацкія каштоўнасці.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## СВЯТЫ ВЕЛІКАМУЧАНІК ФЁДАР ТЫРОН

Святы Фёдар жыў на пераломе III і IV стагоддзяў, у перыяд вялікіх праследаванняў хрысціян пры панаванні рымскага імператара Дыяклетыяна (284—305). У той час на ўсходзе Імперыі панаваў Максіміян. Згодна імператарскім распараджэнням усе хрысціяне павінны былі спажыць мяса з язычаскіх ахвяраў, у іншым выпадку іх мелі асудзіць і прыгаварыць на пакуты. Фёдар у той час быў у арміі і знаходзіўся ў Понце (Малая Азія, сённяшняя Турцыя). Яму таксама трэба было акрэсліць свае адносіны да гэтага загаду. Зразумела, ён рашуча процістаівіўся спробам намовіць яго аганьбаваць сваю веру і адкрыта заявіў, што ён верыць у Хрыста. Некалькі дзён, дадзеных яму на роздумы, ён настойліва маліўся. Потым сталі яго намаўляць адрачыся ад Хрыста і пакланіцца язычаскім бажкам, але Святы Фёдар не пахіснуўся. Тады прыгаварылі яго да галоднай смерці, але калі гэта не дало вынікаў, яго аддалі на катаванні, а ў канцы спалілі на кастры. Здарылася гэта каля 306 года ў горадзе Еўхаіты ў Понцкай вобласці. Адна набожная жанчына, Еўсевія, выпрасіла на ўлад цела мучаніка, намазала яго мірам і пахавала на тэрыторыі свайго дома. Мошчы Святога былі потым перанесены ў Канстанцінопаль. Найменне Тырон абазначае новага салдата, прызыўніка.

Памяць Святога Велікамучаніка Фёдара Тырона ўшаноўваем 2 сакавіка (17 лютага па старому стылю), а таксама ў першую суботу Вялікага Посту.

**С.Н.**




## СУД НАД ГІСТОРЫЯЙ

Паводле мяне ўсяму вінавата толькі адна літара „а" побач прозвішча Бандарук, якім быў падпісаны артыкул „Умом Расею не паняць" („Ніва", н-р 5). Кожны падумае: „а" — значыць айцец, святар, Царква, Бог. Усё сказана да канца.

Прыводжу тут поўную цытату з Цютчава, адкуль выплывае гэтая фраза:

*Умом России не понять,*
*Аршином общин не измерить.*
*У ней особенная стать —*
*В Россию можно только верить.*

Прыводжу яе тым, якія не забылі слоў апостала Паўла, што для хрысціян астаецца толькі верыць сэрцам і розумам. А вера — гэта перакананне аб праўдзівасці чагосьці, што было, ёсць, будзе. Юры Навасельскі, хаця не святар, сказаў нядаўна: „Бог валодае ўсёй гісторыяй" (у тым ліку і Расеі). Бог стварыў усё, што чалавечае, але таксама і будучыню народаў. Ён стварае гісторыю, паклікае адзінкі, паводле свайго меркавання, арганізацыі, такія як Царква, заклікае, каб усе сталі дасканалымі па ўзору Яго Самога. А гэта абазначае, што трэба верыць у Яго рашэнні, што будуць яны ўсім справядлівыя.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

## ТЛУМАЧЭННЕ НАЙМЕННЯЎ СВЯТЫХ

1. **Патрыярхі, прааўцы і айцы** — справядлівыя старазапаветныя мужы, ад якіх плоццю выводзіўся Ісус Хрыстос, а таксама ўсе святыя са Старога Запавету. Напрыклад, Аўраам — 22/9.X, Сымон — 16/3.II.

2. **Прарокі** — багабоязныя старазапаветныя мужы, якіх вылучыў Сам Бог і якія адкрывалі людзям Божую волю і прапаведавалі будучыню; прароцтвы гэтыя датычылі асабліва Збавіцеля. Напрыклад, Ісая — 22/9.V, Ерэмія — 14/1.V.

3. **Апосталы** — дванаццаць вучняў, якіх вылучыў Хрыстос; апрача іх была таксама другая група Апосталаў, г.зв. сямідзесяці; прапаведавалі яны Евангелле ў розных краінах. Напрыклад, Фама — 19/6.X, Лука — 31/18.X.

4. **Святыцелі і айцы** — іерархі, гэта значыць патрыярхі, мітрапаліты, архіепіскапы епіскапы, якія ў Царкве сталі наследнікамі Апосталаў. Напрыклад, Васілій Вялікі — 14/1.I, Рыгор Багаслоў — 7.II/25.I.

5. **Роўнаапостальныя і прасвяціцелі** — асобы, якія распаўсюджвалі хрысціянскую веру сярод язычаскіх народаў і часта наварочвалі ў веру цэлыя народы і краіны. Напрыклад, Кірыла і Мяфодзій — 24/11.V, Ніна Грузінка — 27/14.I.

6. **Мучанікі** — асобы, якія загінулі пакутніцкай смерцю за хрысціянскую веру. Напрыклад, Таццяна — 25/12.I, Анатоль — 3.XII/20.XI.

7. **Велікамучанікі** — мучанікі, якія мужна і стойка перанеслі асабліва жорсткія пакуты. Напрыклад, Кацярына — 7.XII/24.XI, Георгій Пераможца (Пабеданосец) — 6.V/23.IV.

8. **Свяшчэннамучанікі** — мучанікі са святарскага стану, епіскапы або святары. Напрыклад, Феадот — 15/2.III, Афанасій — 4.IX/22.VIII.

9. **Прападобнамучанікі** — мучанікі за веру з манаскага стану. Напрыклад, Афанасій Брэсцкі — 18/5.IX, Нікан — 5.IV/23.III.

10. **Іспаведнікі і страстацерпцы** — асобы, якія пераносілі пакуты і праследаванні за веру, яе абарону і набожнасць, але памерлі натуральнай смерцю. Напрыклад, Максім — 3.II/21.I, Георгій — 26/13.V.

11. **Начартанныя** — назначаныя на лбе, твары распаленым жалезам або ў іншы спосаб за веру ў Хрыста. Напрыклад, Феафан — 24/11.X.

12. **Прападобныя** — святыя з манаскага стану; у іх ліку вылучаецца некалькі відаў:

— **пустыннікі і адшэльнікі** — манахі, якія вялі пустэльніцкае жыццё ў пустынях, лясах і іншых адлюдных месцах;

— **затворнікі** — аскеты, якія па ўласнай волі прыгаворвалі сябе на ізаляцыю ад свету і праводзілі час у самоце на малітвах і роздумах у пячоры або келлі, нярэдка пажыццёва;

— **столпнікі** — манахі, якія праводзілі жыццё на высокіх слупах або вежах;

— **бязмолвнікі** — аскеты, якія жылі моўчкі.

Напрыклад, Ефрасіння Полацкая — 5.VI/23.V, Іоў Пачаеўскі — 10.IX/28.VIII.

13. **Праведныя** — свецкія асобы, якія дасягнулі святасць, прабываючы сярод людзей, у сям'і, ва ўмовах грамадскага жыцця; да іх залічваюцца таксама старазапаветныя святыя, як і асобы, якіх ушаноўваюць на месцах, але якіх не кананізавалі. Напрыклад, Якім і Анна — 22/9.IX, Іоў — 19/6.V.

14. **Бяссрэбнікі** — людзі, якія прысвяцілі сваё жыццё, каб бясплатна і бескарысна памагаць бедным і хворым. Напрыклад, Кузьма і Дзям'ян — 14/1.VII, Кір і Іаан — 13.II/31.I.

15. **Блажэнныя** — асобы, якія адракліся ад зямнога свету і сваё жыццё самааддана праводзілі ў нявыгадных умовах; найчасцей былі гэта „юрадзівыя дзеля Хрыста", якія рашаліся на пакуты і прыніжэнне, каб прынесці ахвяру Збавіцелю; часта прыкідваліся яны неразумнымі, дурнымі, недаразвітымі. Напрыклад, Ксення Пецярбургская — 6.II/24.I, Андрэй Тоцемскі — 23/10.X.

*Паводле:*

*— Mały słownik wyrazów staro-cerkiewno-słowiańskich, ks. dr Aleksy Znosko, ChAT, W-wa, 1983,*

*— Краткия Жития Святых на весь год, Синодальная Типография, Варшава, 1929*

*апрацаваў* **С.Н.**

# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ БЕЛАРУСКАМУ ЦЭНТРУ?! або ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ?!

Працяг са стар. 1

змяншацца. Рэдакцыя „Нівы” з-за недахопу сродкаў страціла сваё месца і апынулася дзесь у хмарах на падстрэшшы. І хоць няма ўжо ёй куды адступаць, але хто ведае...

Сядзіба БГКТ, хоць і знаходзіцца яшчэ на старым месцы, папала ў даўгі так, што здаецца, і яе песенька спета, а спаганяць завінавачанасць, магчыма, і складчынамі прыйдзецца.

Ёсць, канешне, пэўная развязка ў склаўшайся сітуацыі, але трэба было б прадстаўнікам гэтых двух беларускіх устаноў (рэдакцыі і ГП), для дабра свайго і нашай справы, сысціся, пагаварыць, пайсці на кампраміс і, напрыклад, заняць супольна адзін будынак. Мне здаецца, надавалася б на гэта сённяшняя сядзіба ГП. Гэта добры і прыгожы будынак, і добрае месца. Але дзе ж там, пустая гаворка — не можна дагаварыцца, калі не размаўляюць адны з другімі, а кампраміс — гэта не беларуская спецыяльнасць. Па-беларуску лепей няхай гэтая дэфіцытная плошча возерам стане...

Я не хачу тут сказаць, які бок больш вінаваты, бо і сам не ведаю. Хутчэй за ўсё яны і ўсе мы пакрысе вінаваты — традыцыйна праўда ляжыць дзесьці пасярэдзіне, але ад гэтага ім, і нам, і нашай справе не лягчэй, бо напэўна ўсе мы трацім...

Рэспубліка Беларусь таксама такой плошчы нам не падаруе, бо ў нацыянальным і эканамічным сэнсе сама ледзь дыхае, а зважыўшы на яе сучасную палітыку, выглядае на тое, што ў гэтых двух сэнсах яна хутка ўвогуле перастане дыхаць. Тамашнім беларусам так ужо надаела двухгадовая незалежнасць, што проста насілу пачалі перціся пад расейскую „апеку”. І так пачалі паніжацца пры гэтым, што аж смех чалавека бярэ. Бачачы гэта, расейцы пачалі набіваць сабе цану і публічна наракаць на высокія кошты такой „апекі” — можа разваліцца ўся расейская грашовая сістэма і эканоміка. Па-навуковаму гэты феномен, здаецца, „эканамічным заёбам” завуць. Так што можа яшчэ і не згодзяцца „апекавацца” беларусамі. Шкада мне беларусаў, але не плачце. Калі адмовіцца ад вас Расея, ёсць яшчэ Польшча, Літва, Эстонія або нейкая іншая Малдова. Цяпер модна стала мець сваіх неграў, бо Амерыка іх мае...

Зусім іншая справа ў Гайнаўцы. Там ёсць ужо ад зараз салідная матэрыяльная база — вялікі і прыгожы будынак нашага музея, проста палац з прасторнымі заламі. У ім ёсць месца і на бібліятэку, і на чытальню, і на выставачны і канферэнцыйны залы, і на магазін, і на майстэрні, і на фоталабараторыю, і кіно, і кавярня, і бюро, і гасцінныя пакоі. Якраз усё тое, што і патрэбнае такому Цэнтру.

Вакол музея вялікі, упарадкаваны і прыгожа абгароджаны музейны панадворак. Распалажаны ён у ціхім, прыгожым і цэнтральным месцы Гайнаўкі. Можна сказаць, што гэта не проста надзвычай адпаведны будынак і месца, а проста будынак-феномен. І ўсё гэта кроўная і пакуль што адзіная нерухомая ўласнасць беларусаў у Польшчы.

Маюцца ў Гайнаўцы і іншыя козыры, напрыклад, унікальныя ў сваіх архітэктурных адносінах праваслаўная царква Святой Тройцы, з не менш унікальнымі штогадовымі фестываламі царкоўнай музыкі і новы, вялікі і прыгожы будынак Беларускага ліцэя. Іх таксама можам залічыць да свайго роду феноменаў.

Праз Гайнаўку і Гайнаўшчыну пралягаюць усе шляхі-дарогі ў нетры Белавежскай пушчы, бо і сама пушча з'яўляецца часткай Гайнаўшчыны. Адным словам, Гайнаўшчына — найбольшы і, здаецца, апошні ў сваім родзе запаведнік беларушчыны. Тут яшчэ даволі добра трымаецца наша самабытная культура, мова, традыцыі, звычаі на вёсцы. Тут найкарысней выглядаюць выбары ў мясцовыя самаўрады. У самой Гайнаўцы, не гаворачы ўжо пра нашы мястэчкі і вёскі, актуальна 50% радных — беларусы. На Гайнаўшчыне таксама найбольш беларускіх калектываў і заўсёды найбольшая колькасць удзельнікаў розных беларускіх конкурсаў. А і так крытыкаванае (і слушна) беларускае школьніцтва і колькасна, і якасна не на апошнім месцы... Я, канешне, і сам разумею і перажываю, што не так павінна выглядаць яно, ой не так. Але з другога боку, ці можаце назваць мне месца на нашай Беласточчыне, ці нават у самой Беларусі, дзе б беларускае школьніцтва і беларушчына выглядалі лепей?! Я, напрыклад, такіх месц не ведаю. І ці думаеце ўсё гэта само сабой робіцца?!

Зважыўшы на ўсё вышэйсказанае, ці ж не варта нам хуценька арганізаваць Цэнтр беларускай культуры там, дзе актуальна ёсць такія ўмовы, гэта значыць у Гайнаўцы? А потым, калі ўжо паявіцца такая нагода, перанесці яго ў Беласток, а ў Гайнаўцы пакінуць філіял.

З ходу дыскусіі выглядае аднак, што нашы дзеячы не дапусцяць да такой прафанацыі. Па-іхняму, лепей каб увогуле такі Цэнтр не паўстаў, калі мае быць не там, дзе яны надумалі. А вось чаму не хочуць у Гайнаўцы, давайце паслухаем аднаго, на жаль, тыповага выказвання:

*Не ведаю, якія аргументы скарысталі гайнаўскія дзеячы, каб пераканаць пасла РБ у Польшчы Ул. Сянько стварыць Цэнтр беларускай культуры ў Гайнаўцы. (...) Ці хтосьці падумаў, якія людзі будуць ствараць Цэнтр у Гайнаўцы? Хто будзе там штодзень займацца нашай культурай? У Гайнаўцы апрача будынка і спадара Канстанціна Майсені, іншых людзей не відаць, бо калі б былі, дык неяк выявіліся б на публічным форуме нашага беларускага існаваня ў РП. Калі б моцнай была беларускасць у Гайнаўцы (...) то ў школах беларускай мове вучылася б з 60—70%, а не лічаныя вучні.*

*Я думаю, што гайнаўскія дзеячы, ствараючы ў сябе ЦБК, толькі сабе арганізуюць месцы працы. А гэта не так. Для існавання Цэнтра патрэбны не дзеячы, а спецыялісты, якіх у Гайнаўцы проста няма.*

Так піша ў заметцы „Што з Цэнтрам беларускай культуры?” („Ніва”, 30 студзеня 1994 г.) сын Гайнаўскай зямлі. Ён таксама Цэнтр бачыць толькі ў Беластоку. І з гэтым можна згадзіцца, але ніяк не можна згадзіцца з яго аргументамі, чаму ў Беластоку, бо тут што не сказ, то памыі на гайнавян, на пасла і іншых прадстаўнікоў РБ, якія вельмі спрыяльна адносяцца да нашых спраў. Паводле слоў аўтара, у Гайнаўцы, апрача будынка музея і К. Майсені, татальнае дзярмо. З усім гэтым згадзіцца нельга.

Па-першае, вініць беларускага пасла і іншых прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь лічу несур'ёзным і малакультурным. Таксама гайнавян, бо яны нікога не намаўлялі і не намаўляюць. Пасол Ул. Сянько і іншыя прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь прапануюць Гайнаўку таму, што дасканала ведаюць нашы магчымасці ў стварэнні і ўтрыманні такога Цэнтра і свае (а яны, гэтыя магчымасці, больш чым скромныя). Іх хопіць толькі на гайнаўскі варыянт. І таму нікога тут вініць і крытыкаваць нельга. Самога „хацення” станоўча замала.

Па-другое, хаця і праўдай ёсць, што гайнаўскі музей і К. Майсеня гэта дзве нераздзельныя часткі, прычым другая важнейшая ад першай, бо не было б К. Майсені, не было б напэўна і музея, то аднак даволі важную ролю адыграў тут і гайнаўскі актыў. Грамадскага ўкладу гайнаўскага актыву ў музей мноства, як фінансавага, так і, у асноўным, фізічнага. Без перабольшвання трэба сказаць, што праз спрацаваныя рукі такога, напрыклад, Аляксея Харкевіча, у даслоўным сэнсе, прайшла кожная цагліна гэтага гмашыска. А колькі перавалаклі на сваіх ненаймаладзейшых ужо жыватах тон грузу М. Мікалаюк, С. Харкевіч, Я. Хіліманюк і многія іншыя? А хто даваў агароджу, гарадзіў, разбіваў старыя муры, капаў канавы, праводзіў кабелі пад дарогамі, і мноства іншых работ?! Канешне, гайнаўскі актыў. Толькі дзякуючы ўсім ім магло ўдацца такое мерапрыемства! І хоць далёка яшчэ не ўсе беларусы да канца разумеюць значэнне гэтага будынка-сімвала, я лічу яго адным з большых дасягненняў польскіх беларусаў.

Па-трэцяе, аўтар заметкі лічыць, што ў Гайнаўцы не будзе каму працаваць у такім Цэнтры, бо гайнаўскія беларусы гэта нацыянальныя і інтэлектуальныя пасрэднасці. Магчыма гэта і праўда, але ж гэтыя „пасрэднасці” ніколі і не лічылі, што мусяць там працаваць. На іх думку на такіх самых асновах там маглі б працаваць дастойныя беларусы з Бельска, і з Беластока, і нават з далёкага Гданьска.

Па-чацвёртае, наступным магутным аргументам у карысць Беластока аўтар заметкі лічыць, што ў Гайнаўцы слаба стаіць справа з беларускім школьніцтвам. З таго б вынікала, што — на думку аўтара — яно ў Беластоку працвітае. Яго там зусім няма — ніводнай беларускай школкі, ніводнага беларускага класа, хаця і значна больш там пражывае беларусаў, чым у Гайнаўцы і амаль уся беларуская эліта там пражывае. Думаю, што ўжо хутчэй украінскае і арабскае школьніцтва ў Беластоку паўстане, чымсьці беларускае. Ёсць жа там трошкі ўкраінцаў і некалькі татараў.

І нарэшце, да ўсіх пералічаных ужо заган гайнаўскіх беларусаў дадае аўтар яшчэ адну — іх вялікую хітрасць. Калі і памагалі яны пры музеі, то кіраваліся напэўна не сэрцам, не ідэяй, а рыхтуючы сабе цёпленькія пасадкі тут... І таму ў ніякім выпадку не можна дапусціць да гэтага — на думку нашага земляка...

Сустракаючыся з падобным, чалавек міжвольна пачынае задумвацца, ці не мелі часам рацыі немцы, калі ў час апошняй акупацыі характарызавалі беларусаў так: найбольшым пажаданнем беларуса з'яўляецца тое, каб у суседа здохла найлепшая карова.

Ой, каб пачалі толькі спаўняцца нашы пажаданні — не дай Божа — то ці не асталася б уся наша нацыя без малака і малочных прадуктаў?..

**ВАСІЛЬ САКОЎСКІ,**
**Гайнаўка**

# МАЯ НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

## Частка III

У 1979 годзе я першы раз паехаў у Англію. Сутыкнуўся там з выдатнымі беларусамі: біскупам Чаславам Сіповічам і святаром Аляксандрам Надсонам. У шматлікіх размовах з гэтымі людзьмі пераканаўся я, што яны сваю веру абапіраюць цвёрда на грунце беларускай нацыянальнай свядомасці і на фундаменце беларускай мовы. Гэта яны ўвялі беларускую мову ў штодзённы ўжытак і ў царкоўную літургію, у сваю перапіску і ва ўсё справаводства. Было гэта для мяне свайго роду адкрыццём Амерыкі. Тое, чаго я не знайшоў у сябе на Беласточчыне, а таксама ва ўсёй Савецкай Беларусі, знайшоў у Англіі. І біскуп Ч. Сіповіч, і святар А. Надсон аказаліся людзьмі кампетэнтнымі не толькі ў рэлігійных справах, але таксама і ў справах звязаных з беларускай літаратурай. Гэтыя асобы былі ініцыятарамі і выканаўцамі ідэі стварэння беларускага цэнтра ў Лондане, на які склаліся Бібліятэка імя Ф. Скарыны, Беларускі музей і беларускя Царква. Аказалася, што Сіповіч і Надсон добра разбіраліся ў творчасці беларускіх эміграцыйных пісьменнікаў, а таксама і ў жыцці Наталлі Арсенневай. Святар Надсон, які валодае ў істоце камп'ютэрнай памяццю, на працягу даслоўна пяці мінут засыпаў мяне эміграцыйнымі часопісамі, кнігамі, якія былі пасрэдна або непасрэдна звязаны з Наталляй Арсенневай. Доўгі стол у Бібліятэцы імя Ф. Скарыны аказаўся засцелены такімі часопісамі як: „Шыпшына”, „Сакавік”, „Конадні”, „Бацькаўшчына”, „Беларус”, а таксама дзесяткамі іншых выданняў і кніг, у якіх давалася шырокая панарама беларускага эміграцыйнага літаратурнага жыцця. Многія артыкулы, інфармацыі і даведкі датычылі жыцця і творчасці Наталлі Арсенневай. Найбольш мяне ўзрушыў часопіс „Шыпшына”, які выдаваўся ў Германіі і Амерыцы ў 1946-1950 гадах. Чытаючы часопіс, я ніяк не мог зразумець, якім чынам выхадцы з Беларусі, закінутыя вайной у Германію, некалькі месяцаў пасля вайны, жывучы на руінах гітлераўскай Германіі, здолелі згуртавацца, стварыць літаратурную арганізацыю выдаваць часопіс на вельмі высокім мастацкім узроўню. Сярод ініцыятараў і арганізатараў „Шыпшыны” красавалася імя і прозвішча маёй Наталлі Арсенневай. У другім нумары „Шыпшыны” знайшоў я „Дэкларацыю Беларускага літаратурнага аб'яднання”, у якой, між іншым, гаварылася:

„Беларускае літаратурнае згуртаванне „Шыпшына”, якое стварылася 9 красавіка 1946 года ў Рэгенсбургу, мае за мэту:

1) згуртаваць беларускіх актыўных і творча даспелых пісьменнікаў-белетрыстаў, паэтаў, драматургаў і крытыкаў, што знаходзяцца на эміграцыі;

2) працаваць над стварэннем вялікай літаратуры, годнай нашага вялікага народу.

„Шыпшына” стаіць на варце поўнае свабоды творчых пошукаў, але для ейных сяброў з'яўляецца абавязковым крытэрый высокае мастацкасці літаратурнага твору, імкнецца да ідэёвае насычанасці і арыгінальнасці, глыбокая пашана да нашае літаратурнае спадчыны, пачуццё спадкаемства да ўсяго лепшага ў ёй, узаемная пашана да творчасці адзін аднаго, а ў галіне ідэёвай — самаахвярная адданасць Найвышэйшаму Ідэалу нашага Народу. „Шыпшына” заклікае братоў-пісьменнікаў далучыцца да яе, каб супольна тварыць на карысць нашае маці — Беларусі”.

На чале адзінаццаці пісьменнікаў, якія падпісалі гэтую дэкларацыю знаходзілася імя і прозвішча Наталлі Арсенневай. На старонках дзесяці даволі аб'ёмістых нумароў „Шыпшыны”, якая ў 1946-1950 гадах выдавалася ў Заходняй Германіі, а ў 1950 годзе была пераведзена ў ЗША, вельмі часта паяўляліся вершы Наталлі Арсенневай. На пачатку, чытаючы „Шыпшыну”, стараўся я гэтыя вершы перапісваць у свой сшытак. Айцец Надсон, заўважыўшы маю сізіфную працу, аднойчы сказаў: „Без патрэбы амаль усё гэта перапісваеш. Калі прыедзеш да нас у будучым, мы будзем мець ксераксны станок і ты без клопату перафатаграфуеш усю „Шыпшыну” і павязеш яе дахаты”.

Так яно сапраўды і сталася. У часе наступных паездак я перафатаграфаваў не толькі ўсю „Шыпшыну”, але таксама ўсе нумары часопісаў „Сакавік”, „Конадні” і дзесяткі дзесяткаў кніг.

Часопісы гэтыя вельмі мне прыдаліся. Зрэшты, не толькі мне, але і маім студэнтам. Дагэтуль ужо ў Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта апрацавана і абаронена некалькі магістэрскіх работ, падрыхтаваных на падставе прывезеных мною з Лондана скседраксаваных эміграцыйных часопісаў. У гэтым ліку была таксама, напісаная студэнткай Ганнай Кандрацюк вельмі добрая магістэрская дысертацыя, прысвечаная творчасці Наталлі Арсенневай.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# АЎСОМ ЛЕЧАЦЦА МНОГІЯ

У практыцы народнай медыцыны ўжо многія дзесяцігоддзі вялікім поспехам пры лячэнні розных захворванняў карыстаецца авёс — аднагадовая травяністая расліна, што вырошчваецца ў нашай краіне амаль на ўсёй тэрыторыі як адна з асноўных збожжавых культур.

Аўсяныя платкі і мука, багатыя перш за ўсё крухмалам і бялкамі, а таксама цукрам, тлушчам, мінеральнымі солямі і іншымі рэчывамі, выкарыстоўваюцца ў якасці дыэтычнага харчавання, а настойкі, водныя экстракты і іншыя прэпараты з аўсяных зёлак і саломы рэкамендуюцца як дасканалыя стымулятары пры бяссонніцы, дапамагаюць таксама пры эпілепсіі. Ванны з адварам з аўсянай саломы дапамагаюць пры рэўматызме, падагры, ішыясе, пры празмерным паценні ног. Салома аўса выкарыстоўваецца таксама як супрацьдыябетычны, мачагонны, ветрагонны і жарапаніжаючы сродак.

І па сённяшні дзень у народзе папулярны адвар аўса з малаком і мёдам. Падрыхтоўваюць яго так: усыпаюць шклянку аўса ў пяць шклянак вады і вываряваюць сумесь да гушчыні рэдкага кісялю, які працэджваюць праз марлю, уліваюць у дзве шклянкі малака, падаграваюць да кіпення, дадаюць чатыры чайныя лыжачкі мёду і зноў кіпяцяць.

З аўса звычайнага (*Avena sativa* L.) народная медыцына выкарыстоўвае, такім чынам, свежую зеляніну маладых раслін, сабраную перад цвіценнем і высушаную ў ценістым і прадуўным месцы, а таксама аўсяную салому, сабраную пасля таго, як збожжа даспее. Сыравіна зёлак аўса гэта па-лацінску *Herba Avenae*. Збіраюць таксама спелыя, цэлыя зярняты аўса (*Fructus Avenae*), выкарыстоўваюць аўсяныя платкі (*Fructus Avenae excorticatus*) і аўсяную муку (*Farina Avenae*).

Трэба адзначыць, што апрача ўсіх пералічаных вышэй лячэбных якасцей саломы, гэта вельмі добры мінералізуючы сродак, які аказвае дадатны ўплыў на абмен рэчываў у арганізме, стан крывяносных сасудаў, унутраных органаў, касцей, скуры, валасоў і пазногцяў. І — увага! — аказвае карысны ўплыў на гарманальную актыўнасць пажылых людзей, амалоджвае і папярэджвае заўчасную старасць.

## ПРЭПАРАТЫ

### Адвар з зёлак аўса

1 лыжку зёлак заліць 1 шкянкай гарачай вады і настойваць паўгадзіны. Тады падагрэць зёлкі да кіпення і варыць паволі пад пакрыўкай на працягу 5—10 мінут. Настаяць яшчэ 10 мінут і працадзіць. Дапоўніць кіпячонай вадой да 1 шклянкі, перапалоскваючы ёю зёлкі на сітцы. Піць 3 разы ў дзень па 1 шклянцы пасля яды пры хваробах нырак.

### Мачагонныя зёлкі

Змяшаць па 20 г зёлак аўса, зёлак хвашчу, ягад ядлоўца, кветак бузіны чорнай і лісця чорнай парэчкі. 2 лыжкі зёлак заліць 2 шклянкамі гарачай вады. Падагрэць да кіпення і варыць на невялікім агні пад пакрыўкай 3—5 мінут. Настойваць 10 мінут і працадзіць. Піць 2 разы ў дзень шклянку зёлак пасля яды пры хваробах нырак.

### Налiўка з зёлак аўса (Tinctura Avenae)

20 г зёлак аўса заліць 100 мл 7-працэнтнага спірту, шчыльна зачыніць і паставіць на 7—10 дзён, часта патрасваючы. Тады зліць вадкасць, зёлкі выціснуць, усё працадзіць праз вату. Піць 3 разы ў дзень па 15 кропляў у кілішку вады пасля яды пры станах нервовай знямогі, а таксама пры бяссонніцы (вечарам па 20 кропляў у кілішку вады).

### Аўсяная ванна

0,5—1 кг аўсянай саломы заліць у посудзе 3—5 літрамі цёплай вады і паставіць на 2—3 гадзіны. Тады падагрэць да кіпення і варыць няспешна пад пакрыўкай на працягу паўгадзіны. Працадзіць у ванну і напоўніць яе да 1/3 вадой тэмпературай каля 37°С. Ванну прымаць на працягу 15—20 мінут пры артэрыясклерозе, рэўматызме і скурных хваробах. Такія ванны рэкамендуюцца таксама людзям, аслабленым у выпадку хваробы і нервова хворым.

**ЭСКУЛАП**

# Я ЗАСЫПАНЫ СНЕГАМ

Няўдала склалася Федзева жыццё. Пасля вайны памерла ягоная маці, бацька хутка пацешыўся іншай.

Мачаха Наста была прыдзірлівай кабетай. Чаплялася пасынкаў, не шкадавала пагардлівых слоў і мужу. Усе ў вёсцы гаварылі, што з-за яе „дабрыні" ніхто яе замуж так доўга не браў, урэшце ўдавец злітаваўся дый узяў.

Калі нарадзіўся ёй сын, мужавых пагнала працаваць як валоў. Муж пагадзіўся з лёсам, слухаў жонку ва ўсім.

Калі Федзя закончыў пачатковую, хацеў пайсці вучыцца далей, у сярэднюю вайсковую школу. Мачаха раскрычалася:

— А хто табе тут будзе працаваць на гаспадарцы? Што я з малым дзіцём зраблю?! Ты, стары чорт, усё хварэеш, а я тут, мучаніца, у ярме хаджу!

Знайшла Федзіны паперы, нарыхтаваныя выслаць іх у школу, і на вачах у хлопца спаліла.

Пасведчанне аб заканчэнні пачатковай школы павінна было быць арыгінальным, і копію не прынялі.

Хлопец часта бегаў на матчыну магілку і плакаў. І бацька памёр. Цяпер мачаха была гаспадыняй на ўсім. Федзя і яго малодшы брат Вася не змаглі стрымаць мачашыных здзекаў і ўцяклі на „Прусы".

Працавалі ў ПГРы пастухамі, пакуль гаспадарка не купіла электрычны. Потым закончылі курсы і Федзя стаў сантэхнікам, а Вася — сталяром. Вася ажаніўся і жыў як Бог прыказаў, але Федзя не мог забыцца крыўды і пачаў піць.

Усе лаялі Федзю, што марнуе здароўе. Федзя чалавек быў спакойны, па-п'янаму нікому не дакучаў, толькі плакаў: „Ужо запозна. Мне ўсё ў вачах стаіць хвіліна, як мачаха паліць мае дакументы. Тады згарэлі мой лёс, мая будучыня..."

Аднойчы ў марозны дзень Федзя прапаў. Брат паведаміў міліцыю, далі інфармацыю ў газету. Нідзе не маглі знайсці Федзю.

Аднойчы Федзін сябар Вацак меў кашмарны сон. Быццам той прыйшоў да яго акрываўлены, у брудным адзенні і сказаў: „Няхай мяне шукаюць над ямай. Я сяджу асыпаны снегам. Спачатку мне было халодна, але цяпер мне цёпла."

Вацак сарваўся з пасцелі, пабег на пастарунак. Расказаў пра сон і вельмі прасіў шукаць Федзю, добрага чалавека.

— Вы самі разумееце, што ваша просьба недарэчная. Зіма вострая, ямаў у ваколіцы шмат... Няхай бы ваш сябра сказаў, над якой ямай ён канкрэтна сядзіць, тады іншая справа... — стрымоўваючы смех сказаў міліцыянт.

— Вось да чаго можа давесці гарэлка, — пракаментавалі на пастарунку, калі Вацак пайшоў дадому.

Пачаў таяць снег. Дзяўчаты вярталіся напраcткі з працы і ўбачылі, што нехта сядзіць над ямай. Быў гэта Федзя, якога два месяцы раней, замёрзлага, засыпаў снег.

**АЎРОРА**

# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. англійскі пісьменнік (1894-1963), 3. афрыканская дзяржава, 5. паляванне ў Афрыцы, 7. горад у Беларусі, 9. горы ў Балгарыі з манастыром, 10. асноўнае веравызнанне ўсходніх славян, 11. неразбярыха, 12. прыродны вадаём, 14. закрыццё прадпрыемства і масавае звальненне рабочых, 16. мястэчка на Гродзеншчыне, 17. найбольшы горад Новай Зеландыі.

**Вертыкальна:** 1. доўгія ногі, 2. лісіца, 3. летуценні, 4. ансамбль спевакоў і музыкантаў, 6. нерэальнае, неверагоднае, 8. размова пракурора з падазроным, 9. узбярэжжа Міжземнага мора ў Італіі і Францыі, 11. горад у Маньчжурыі, 13. горад у Ферганскай даліне (Узбекістан), 14. Мар'яна Хасэ, іспанскі пісьменнік (1809—1837), 15. ніткі, якія пераплятаюцца з асновай.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на святочную віраванку:** ёлка, яслі, воск, кава, лапа, Осла, маса, ятка, пост, стол, ліса, сяло, кола, мост, торт, мроі, змяя, воўк, соль, моль, убор, Амур, сказ, секс, Зеўс, сэнс, цэль, баль, мука, унук, крук, факт, зара, Нява, цёця, анёл, юнак, нюня, роля, спор, каса, рака, вяха, цаля, неба, сена, збан, злом, сноп, зона, сала, каша, хата, лыжа, грыб, стог, брат, метр, сені, клін, заяц, жаль, шаль, вата, жаба, рыба, трыо, мыта, тлум, схіл, хлеб, жарт, лыка, вусы, зубр, герб, тыгр, люты, Урал, Ігар, елка, дзік, карп, зіма, эпік.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Галене Тапалянскай** з Трасцянкі і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, мне прыснілася, што я была ні то ў тэатры, ні то на нейкай урачыстасці. Навокал было шмат людзей, а найбольш мільгаў перад маімі вачыма адзін мой сябра. То тут ён быў, то там паяўляўся. Увесь час як бы кружыў вакол мяне. Што можа абазначаць такі сон?

**Аня**

Астроне, адкажы, калі ласка, як мага хутчэй на мой сон. Я вельмі непакоюся. Прысніўся мне мой дзядзька, які ўжо памёр. Быццам прыносіць ён і дае мне нейкую шкатулку. Я адчыняю яе — а там розныя каштоўнасці, залатыя пярсцёнкі. Я пачынаю прымерваць гэтыя пярсцёнкі, і кожны з іх лёгка ўваходзіць на мой палец. Думаю: адкуль гэта дзядзька ведаў размер майго пальца? Баюся, ці гэта не штo кепскае, бо, хаця я маладая, то ў мяне муж намнога старэйшы.

**Эля**

Аня! Твой сон сведчыць пра тое, што ёсць у цябе нейкія фальшывыя сябры, прыцэцелі. Найбольш, бадай, датычыць гэта таго твайго сябры, які найчасцей выступаў у гэтым сне. Сцеражыся яго!

Эля! Мяркую, што і твой сон не прадвяшчае нічога добрага. Выглядае на тое, што ты жывеш у нейкім фальшы і залежнасці. Дапасоўваючы тыя пярсцёнкі да цябе, ці не пакліча выпадкова на той свет твой дзядзька-нябожчык кагосьці з тваёй сям'і... Ты пішаш, што муж у цябе намнога старэйшы. А ці не хварэе ён? Ты баішся за яго, праўда? Прынамсі адно магу табе сказаць напэўна: на добрае не разлічвай.

**АСТРОН**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ФАРШЫРАВАНЫЯ СЕЛЯДЦЫ**

Прадукты:

*4 салоныя селядцы з малачаем,*
*2 цыбуліны,*
*4—5 лыжак алею,*
*1 шклянка сцертай на тарцы сухой булкі (яшчэ лепш сухога чорнага хлеба),*
*2—3 вараныя яйкі,*
*перац.*

Вымачаныя селядцы надрэзаць уздоўж хрыбта, тады выняць хрыбты разам з костачкамі і ўнутранасцямі. Малачаі пасячы з цыбуляй, перамяшаць з алеем, цертым хлебам, перцам і пасечанымі яйкамі. Гэтым фаршам напоўніць селядцы. Палажыць іх на талерку, спырснуць алеем, упрыгожыць скрылёчкамі цыбулі, лімона і зеляніны.

**ГАСПАДЫНЯ**

Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Іранічныя радкі*

*ВІНЦУК АСЬЦЮК*

## КАЖУЦЬ...

*(працяг)*

Ну а людзі шмат што кажуць,
Нібы венікі ўсё вяжуць.
Кажуць, што з бальшавікамі,
Што з чырвонымі сцягамі
Ходзяць, злосныя, крычаць,
Каб Саюз тут аднаўляць,
Дружна, як раней, жывем,
Без сцягоў — ды ўслед ідзем.
Кажуць, „суверынітэт"
Завядзе нас на той свет,
Бо не маем мы нічога,
Як не мелі ўчора Бога.
Нават бульбу нам і жыта
Трэба закупляць, нібыта,
Бо яны ў нас не растуць,
І таму ў нас людзі мруць,
Нібы мухі ў час зімовы.
Кажуць, што няма талковых
У парламенце людзей.
Праўда, быў жа Дземянцей
І хацеў усім ён шчасця.
Ды ўсё ж давялося скласці
Паўнамоцтвы старшыні
І цяпер ён дзень пры дні
У парламенце сядзіць
І з усмешкаю глядзіць
Як і хто там выступае.
Сам жа кнопкі націскае,
Як і большасць дэпутатаў,
Што век спалі на пасадах,
Хоць цяпер ўжо і не спяць.
Праўда, сонныя, маўчаць.

*(працяг будзе)*

## СЕНТЭНЦЫІ

Зоркі свецяць, бо баяцца цемры.

* * *

Неаперанае крыло і сябе не ўзніме.

* * *

Няшчасце крывавіць душою.

* * *

Ноч з'яўляецца днём месяца.

**БАРЫС РУСКО**





*— Мая жонка будзе рада з табой пазнаёміцца.*

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Ты толькі не старайся дагаджаць свёкрам! — кажа свёкар нявестцы пасля вяселля.
— Як жа гэта так? — здзіўляецца маладая.
— Не дагадзіла свёкрам мая жонка, не дагодзіш ёй і ты.

* * *

— Слабы з цябе бягун, — кажа настаўнік фізкультуры вучню першага класа прафесіянальнай школы. — Ты заўсёды так бегаў?
— Не. Раз мы беглі лясной дарогай і мяне ліс напалохаў, то ведаеце, як я бег?!

* * *

— Чаму твая жонка кожны дзень мые бялізну?
— Хоча выпрабаваць, які парашок найлепшы, напісаць у тэлебачанне і выступіць у рэкламе!

* * *

— Цётка Ганна, — звярнуўся Мішка да пажылой жанчыны, — я з натуры нясмелы, але ўрэшце наважыўся. У нядзелю я прыеду да вашай дачкі ў сваты.
— Ой, сыну, позна ты апамятаўся! Наша Марыся якраз у гэтую нядзелю замуж выходзіць!

* * *

— Тата, — просіць пяцігадовы Дарко, — скажы, што такое смерць.
— Гэта такая штука, што, калі мы жывем, яе няма, а калі мы перастанем жыць, яна ёсць.

* * *

— Мой муж ужо не курыць, — хваліцца Данута.
— Ну і што з таго? Калі мужчына не курыць і не п'е, то казлом пахне! — смяецца сяброўка.
— То што, можа, лепей пахне, калі дэнатурат п'е?!

* * *

— Чаго ты шукаеш у гэтым сметніку?
— Жонка выкінула мае нагавіцы.
— Ты што, думаеш іх яшчэ насіць?
— Не, але ў кішэні быў ліст з адрасам маёй новай дзяўчыны з санаторыя.

**АЎРОРА**





Дарагое Сэрцайка! Ніколі не думала я, што спаткае мяне ў жыцці тое, што спаткала. Скажу адразу: мой муж гэта вельмі прыгожы хлопец. І ад таго пачалося наша знаёмства, што я звярнула ўвагу на яго прыгажосць. А былі мы тады ў нейкай кампаніі, і я яшчэ не ведала, што гэта жанаты чалавек. Ён сядзеў моўчкі, быццам быў непрысутны, і гэта яшчэ больш заінтрыгавала мяне. Гэта я знайшла нагоду, каб падсесці да яго і пачаць размову.

Быў вельмі нешчаслівы, якраз адышла ад яго жонка. Не адпавядаў ёй у пасцелі і ён вельмі перажываў гэта, я пацяшала яго як магла і як выпадала на пачатак знаёмства. Я была вельмі цярплівая і хацела яму дапамагчы. Прыгожаму чалавеку заўсёды ахвота глядзець у вочы. Нават не ведаю, чаму ён мне так даверыўся. Можа, таму, што я хацела яго слухаць...

Развітваючыся, я пакінула яму свой тэлефон на цяжкую хвіліну. І што ты думаеш, Сэрцайка? Пазваніў! Я запрасіла яго да сябе. Спачатку мы толькі размаўлялі — найбольш ён выказваў свой жаль, а я, як і ў першы вечар, цярпліва слухала. Але мне гэта імпанавала. Пасля мы пачалі „прытуляцца".

Сапраўды, ён меў рацыю. Калі мы нарэшце апынуліся ў пасцелі, я ўбачыла нешта такое недаразвітае, нейкі смешны стручок, як, можа, у дзесяцігадовага хлопца. У душы я нават здзівілася, як можна штосьці такое лічыць за „інструмент". А мяне ўсё роўна цягнула да яго.

Неўзабаве быў яго развод, а зараз жа пасля яго мы ўзялі шлюб. Хаця да гэтага хлопца (называю яго хлопцам, бо тады было яму ўсяго 22 гады) быў у мяне не адзін хлопец і бачыла я ўжо рознае, то мушу прызнацца, што з такімі, як ты называеш „габарытамі" не было ніводнага. Усё гэта былі хлопцы, якія цвёрда ведалі, чаго яны хочуць і не мелі комплексаў у мужчынскіх справах. З гэтым было цалкам інакш. Нягледзячы на ўсё, умеў ён заахвоціць да кахання. Быў вельмі далікатны, а яго пяшчоты не мелі канца. Фактычна ўжо ад адных яго пацалункаў можна было звар'яцець. Цалаваў мне ўсё цела, пальцы на нагах. І, трэба прызнацца, што я зусім не адчувала, каб мне было горш, чым з яго папярэднікамі.

А пасля нарадзіўся ў нас сын. Колькі было радасці і аўтэнтычнага шчасця! Мае бацькі памагалі нам яго выхоўваць, быў жа ён іх адзіным унукам.

У майго мужа вельмі цікавая прафесія. Мы часта выязджалі разам (я не працую), хадзілі ўсюды. Дзіця ніколі нам не перашкаджала, бо заўсёды можна было яго пакінуць у дзеда і бабкі. Я была шчаслівая.

І вось нядаўна я даведалася, што ў майго мужа „завялася" новая знаёмая. Можа, я б і не заўважыла гэтага, каб не сказалі сяброўкі. Праўда, занепакоіла мяне крыху, што мой муж перастаў браць мяне ў падарожжы, ды і штораз радзей мы паяўляліся разам у кампаніі. Сыну ўжо споўнілася чатыры гадкі, і муж пераконваў мяне, што ён павінен выхоўвацца сваёй маці, а не бабуляй.

Я пачала пільней прыглядацца да паводзін майго мужа і прыйшла да вываду, што ён сапраўды мае каханку. Пагаварыла з ёю спакойна. Спыталася ў яе, ці ён сапраўды ёй так адпавядае ў пасцелі. Не ў гэтым справа, адказала яна, і я зразумела, што ўсё пачынаецца ад пачатку.

А я ж думала ўвесь час, што гэта я збавіла яго ад комплексаў, дапамагла яму паверыць у тое, што ён — нармальны мужчына, якога можа кахаць жанчына і які можа мець дзяцей. Я была з ім нягледзячы на ўсё, шчаслівая і думала, што дала шчасце яму. А цяпер жывем амаль у сепарацыі. Пэўна будзе ізноў развод.

**Ізабела**

Ізабела! Ты дала яму, несумненна, шчасце, але ненадоўга. Такія людзі, як твой муж нягледзячы на свае не надта вялікія здольнасці ў сексуальных справах, усё жыццё шукаюць новых уражанняў і новых жанчын. Яны мусяць пастаянна мець пацвярджэнне, што яны — мужчыны, хаця няшмат знешніх рыс аб гэтым сведчыць. Ну, і, урэшце, ён прыгожы хлопец.

Наконт разводу не спяшайся, у вас жа дзіця. Пэўна, на той новай знаёмай ён доўга не затрымаецца, бо неўзабаве будзе патрэбна яму яшчэ навейшая.

**СЭРЦАЙКА**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ЛІТАРАТУРНЫЯ ЗДАНІ

Вядуцца па ўсёй тэрыторыі Беларусі і нават па-за яе межамі — там, дзе ёсць беларуская дыяспара з яе школамі і бібліятэкамі. Але, на жаль, паколькі ў школах вывучаецца збольшага беларуская савецкая літаратура, то здані гэтага віду маюць пераважна савецкае паходжанне. Гэтыя істоты матэрыялізуюцца наступным чынам: большасці чытачоў застаецца падсвядомая, неасэнсаваная згадка пра герояў, і гэтыя думкі часам канцэнтруюцца на адным пэўным герої. Такі герой-здань з'яўляецца ў рэальным жыцці з усімі сваімі хібамі і станоўчымі вартасцямі. Але, як то ні дзіўна, запамінальных станоўчых герояў у беларускай літаратуры савецкага часу мала: найбольш яскравымі сталі дыверсанты і шкоднікі, якія пад выглядам народных мсціўцаў дзейнічалі на сваёй тэрыторыі ды дзеці-забойцы ў піянерскіх гальштуках... Дзеля справядлівасці варта дадаць, што ў пісьменнікаў, схільных да нацыяналістычных захадаў і экстрэмісцкіх паводзінаў, трапляюцца героі чалавечага кшталту.

## Міколка-паравоз

Ужо ў самім імені-мянушцы папулярнага героя Міхася Лынькова закладзены характар здані часоў пашыранай механізацыі. Дарэчы, гэтая традыцыя ў савецкай беларускай літаратуры мае досыць моцныя карані — згадайма хаця б Максіма Танка. Пасля ўключэння твора „Міколка-паравоз" у школьную праграму вобраз хлопчыка-шкодніка трывала ўвайшоў у свядомасць чытачоў. Многія пакаленні дзетак-беларусаў меркавалі, што Міколка-паравоз — чыста літаратурны вобраз, але падзеі, якія нядаўна разгарнуліся ў Оршы, на гістарычнай радзіме здані, пацвердзілі вышэйзгаданую тэорыю матэрыялізацыі літаратурных пачвараў.

У 1991 годзе ў Оршы, самым буйным чыгуначным вузле Беларусі, распачаліся страйкі. Спачатку мясцовыя ўлады меркавалі, што гэтыя страйкі стыхійныя, але неўзабаве сакрэтныя агенты транспартнай міліцыі прыйшлі да высновы, што чыгуначнікаў і насельніцтва да непадпарадкавання ўладам падбухторвае ўсё адзін і той жа зламыснік. У красавіку на стол начальніка транспартнай міліцыі лёг рапарт аднаго з сакрэтных агентаў, у якім паведамлялася наступнае: „25 красавіка ў краме каля чыгуначнага вакзала сабралася вялізная чарга па гарэлку — выключна жанчыны, бо іх мужыкі ў гэты час біліся ў дэпо з міліцыянтамі. У чарзе з'явіўся хлопчык у старарэжымнай чыгуначнай фуражцы, які здолеў пераканаць натоўп, што гарэлкі ў краме не будзе, бо ўсе прадукты нафтаперапрацоўкі з Беларусі вывозяцца ў Расею, а таму трэба ісці на чыгунку і садзіцца на рэйкі, па якіх праз некалькі гадзін мусіць прайсці цягнік на Маскву, наладаваны мясцовымі моцнымі напоямі. Жанчыны паддаліся на правакацыю і выйшлі на чыгуначнае палатно за горадам".

У гэты самы час да горада пад'язджаў урадавы спеццягнік з прэм'ер-міністрам, які ехаў супакойваць мясцовы пралетарыят. Але машыніст быў змушаны спыніць цягнік, не даязджаючы да Оршы, бо шлях перакрыў натоўп раз'юшаных цётак. Прэм'ер-міністр зірнуў у акно: у натоўпе насупраць вагона, наверсе чыгуначнага адхона стаяў хлопчык у старарэжымнай чыгуначнай фуражцы і паказваў яму голую дупу. Прэм'ер-міністр зніякавеў і вырашыў не выходзіць да народу, пакуль зламыснік не будзе злоўлены. Але ахова, апынуўшыся на адхоне, ніякага зламысніка не ўбачыла. Вярнуўшыся да старшыні выканаўчае ўлады дзяржавы, начальнік аховы з немалым здзіўленнем убачыў праз шкло, што сярод ягоных падначаленых стаіць зламыснік і свеціць голай дупай. „Матка Боска Вастрабрамска!.." — перахрысціўся начальнік аховы, які, нягледзячы на партыйны білет і КДБісцкае пасведчанне, у душы заставаўся праўдзівым каталікам і, дарэчы, паходзіў з адной вёскі з прэм'ер-міністрам. Як толькі шкло было апушчана, здань знікла. І толькі тады старшыня выканаўчай улады наважыўся выйсці да народу, каб уласнаручна раздаць прывезеную гарэлку. Пайшла ланцуговая рэакцыя — цёткі занеслі гарэлку сваім мужыкам, тыя, як і мае быць, напіліся, а міліцыянты расцягнулі непрытомных па выцвярэзніках і пастарунках. Так, дзякуючы намаганням урада, класавае выступленне аршанскага пралетарыята, падбухторанага літаратурнай істотай, было спынена.

Але вярнуць здань на старонкі літаратурнага твора было ўжо немагчыма: Міколка-паравоз, пазбаўлены магчымасці рабіць вялікія шкоды, пачаў рабіць драбнейшыя. Ён з'яўляўся пры любым надвор'і на тым самым адхоне перад кожным цягніком з дэлегацыяй з Усходу, нязменна дэманструючы інтымную частку цела. Па начах ён падсвечваў яе чыгуначным ліхтаром. Відаць Міколку-паравоза было толькі з вагона. Каб зліквідаваць гэтую ганьбу слыннага чыгуначнага горада, мясцовыя ўлады абвясцілі конкурс. Перамог праект аднаго дызайнера, згодна з якім уздоўж чыгуначнага палатна ўсталявалі рэкламныя плакаты заморскага шакаладу „Снікерс". І як не вычвараецца Міколка-паравоз, але ніхто з пасажыраў не заўважыў ягонае дупы на тле гіганцкіх смажаных арэхаў цялеснага колеру...

Такім чынам, нават кічова-абрыдлівая рэклама кандытарскіх вырабаў можа паспрыяць паляпшэнню нацыянальных нораваў.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**І МАРЦІН ЮР**